


Рэгіянальная газета. Rh.by
25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

14 жніўня 2020 года №33 (1320)

18+

# Беларусы выбіралі

**Пратэсты ў Маладзечне пасля выбараў**

старонкі 2-3

**Дзённік назіральніка: пяць дзён у калідоры, адзін дзень на ганку**

старонкі 18-19







**Пётр Краўчанка — пра мову і вышыванку**

старонка 5

**Як маладзечанка з інваліднасцю нарадзіла і гадуе дачку**

старонка 8

ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# У Маладзечне праходзяць акцыі пасля выбараў



Людзі просяць скласці шчыты, 10 жніўня.

**9 жніўня ў Беларусі скончылася галасаванне на выбарах прэзідэнта Беларусі. Ад вечара асноўнага выбарчага дня ў краіне праходзяць акцыі пратэсту. Карэспандэнты «РГ» асвятлялі падзеі мінулых дзён у Маладзечне.**

### Першы дзень пратэстаў у Маладзечне

Вечарам 9 жніўня ў Маладзечне на плошчы і ў гарадскім парку знаходзілася каля дзясятка чалавек. З часам усё больш і больш людзей ішло на Цэнтральную плошчу Маладзечна.

ДАІ перакрыла вуліцу Віленскую і дарогу ля гасцініцы. Машыны праязджалі толькі па Вялікім Гасцінцы. Каля плошчы знаходзілася некалькі машын міліцыі. А саму плошчу патрулявалі чатыры міліцыянеры. Яны перыядычна падыходзілі да людзей. Апошнім разам падышлі да мужчын, якія сядзелі на лаўцы з відам на помнік Леніна. Да іх падышло яшчэ больш людзей. Яны спрабавалі высветліць, чаму супрацоўнікі міліцыі ў масках.

– Нам жа кажуць, што каронавірусу няма! І раптам мы яго перамаглі, чаго вы ў масках тады, – звярнулася да міліцыянераў жанчына. Супрацоўнікі спрабавалі нешта патлумачыць, але ў хуткім часе да іх падышлі калегі і яны сышлі ад людзей.

Каля **21:00** маладыя людзі пранеслі бел-чырвона-белы сцяг. Іх сустрэлі апладысментамі і воклічамі «Жыве Беларусь!».

Праз 10 хвілін з боку райвыканкама ў бок плошчы выйшлі супрацоўнікі міліцыі. Іх было каля двух дзясяткаў. Яны сталі ў шарэнгу насупраць людзей. Людзі спачатку збіраліся адысці ў бок парку, аднак спыніліся і сталі ў 10-15 метрах ад міліцыянераў. Па ацэнках нашых карэспандэнтаў, на плошчы знаходзілася каля 40 міліцыянераў ва ўніформе і цывільным.

Людзі былі не толькі на плошчы. Побач з ёй, на суседніх вуліцах, таксама знаходзілася некалькі соцень чалавек. Людзі размаўлялі з міліцыянерамі, аднак яны нічога не адказвалі. Працяглы час натоўп скандзіраваў «Міліцыя з народам», «Мы – ваш народ».

Бліжэй да **22:00** на плошчы з'явіліся міліцыянеры ў бронекамізэльках і са шчытамі – іх было дзесяць. Яны сталі спінай да астатніх міліцыянераў. Падчас іх з'яўлення на плошчы адключылі святло.

Пасля таго як выйшлі супрацоўнікі са шчытамі, прыехалі два бусы з АМАПам. Некалькі амапаўцаў падышлі да міліцыі. Прыкладна ў **22:30** натоўп рушыў у бок парку. Колькасць людзей падлічыць было немагчыма, было не менш за тысячу чалавек.

Людзі не змаглі перайсці дарогу, туды хутка пад'ехаў АМАП. Нехта з натоўпу кінуў фаер. Супрацоўнікі міліцыі і АМАПа пачалі падыходзіць да людзей з боку рынку, гасцініцы і райвыканкама. Людзі пачалі бегчы ў розныя бакі. Карэспандэнты адзначылі, што супрацоўнікі АМАПа ўжылі сілу супраць мужчын і жанчын.

Некаторыя людзі рушылі ў бок скрыжавання Вялікі Гасцінец–Багдана Хмяльніцкага. Значная колькасць натоўпу знаходзілася ў гарадскім парку. Людзі стаялі на скрыжаванні. ДАІ ў гэты час ужо перакрыла палосы па Вялікім Гасцінцы. Большасць машын падавала гукавы сігнал, а людзі апладзіравалі.

У **23:26** да скрыжавання прыехаў аўтазак і два бусы з амапаўцамі. Яны праехалі ў двор дома №64 па Гасцінцы, рушылі зноў да плошчы. У бусах знаходзіліся дзяўчаты – магчыма, гэта некаторыя з затрыманых.

Тым часам у парку было некалькі дзясяткаў чалавек, якія скандзіравалі «Жыве Беларусь». Карэспандэнты сустрэлі ў парку маладога чалавека, які распавядаў, што амапаўцы некалькі разоў бегалі за людзьмі, аднак нікога не змаглі схапіць.

У **0:20** некалькі дзясяткаў чалавек знаходзіліся на скрыжаванні Гасцінца і Хмяльніцкага.

Супрацоўнікі міліцыі і АМАПа заставаліся ля ўвахода ў парк. Там стаялі аўтазак, два бусы, машыны міліцыі і ДАІ.

У 0:31 яны рушылі да супрацоўнікаў АМАПа. Амапаўцы сталі ў шарэнгу. З боку вуліцы Хмяльніцкага прыехаў бус, а людзі пачалі разбягацца ў двары і парк. Як распавядаюць нашы карэспандэнты, пасля людзі больш не збіраліся разам. Вялікі Гасцінец быў перакрыты яшчэ дзесяць гадзін.

Нагадаем, што ад 8:00 у Беларусі з'явіліся праблемы з інтэрнэтам. Пасля 20:00 не працавалі месенджары, буйнейшыя парталы беларускіх СМІ. Яны не зніклі да раніцы 12 жніўня.

### Стаялі на каленях і прасілі скласці шчыты

10 жніўня на Цэнтральнай плошчы, гарадскім парку і па Вялікім Гасцінцы супрацоўнікі міліцыі зноў затрымлівалі людзей.

Пасля шасці вечара 10 жніўня на плошчы ў Маладзечне было няшмат людзей. Плошчу і парк патрулявалі міліцыянеры і вайскоўцы з сабакамі. На плошчы яны падыходзілі да людзей, правяралі сумкі.

Каля **19:30** пачаліся затрыманні, а людзі пачалі ісці ў той бок месца. На месцы затрыманняў знаходзіўся начальнік маладзечанскага РАУС **Вадзім Прыгара**.

Каля **19:40** каля сотні людзей сталі перад АМАПам на калені, кажучы «Мы з мірам». Іх выцягваюць па аднаму і затрымліваюць. Каля **19:50** пратэстоўцы звярталіся да АМАПа: «Чаму ў іншых гарадах амапаўцы склалі перад людзьмі шчыты. А вы не?»

Каля **19:55** людзей стала яшчэ больш. Усе становяцца на калені перад шчытамі. Некаторыя заклікаюць АМАП да сумлення. АМАП у адказ: «Грамадзяне, разыходзьцеся! Дадзенае мерапрыемства несанкцыяніраванае!»

Каля **20:00** першая хваля затрыманняў скончылася. На каленях засталося стаяць некалькі чалавек. Астатнія сабраліся ў групу. Колькасць людзей павялічвалася пасля першых затрыманняў.

Каля **20:20** пачалася

# пратэсту

другая хваля затрыманняў. Пад'ехала «Хуткая», кагосьці занеслі ў яе на насілках. Верагодна, гэта вайсковец, які ляжаў на плошчы пасля таго, як шарэнга вайскоўцаў сутыкнулася з людзьмі.

Каля **20:50** людзі, якія выпадкова аказаліся на плошчы, з-за перакрытай дарогі не могуць трапіць на вакзал. Пратэстоўцы скандзіруюць лозунгі, просяць АМАП скласці шчыты. АМАП зачысціў пляцоўку ля парку, людзі разбегліся ў розныя бакі.

Людзі сабраліся на скрыжаванні вуліц Вялікі Гасцінец і Багдана Хмяльніцкага. Там назіраліся вялікія заторы. Затор расцягнуўся ад шостай гімназіі да крамы «Рублёўскі».

Амапаўцы дасталі зброю і стралялі гумкавымі пулямі па пратэстоўцах на скрыжаванні Вялікі Гасцінец–Багдана Хмяльніцкага. Каля крамы Рублёўскі ДАІ перакрыла дарогу, супрацоўнік Дзяржаўтаінспецыі дастаў зброю, на што людзі пачалі крычаць «Пакладзі аўтамат!»



Дзяўчына крычыць на вайскоўца пасля таго, як той збіў яе хлопца, 10 жніўня.

Каля **22:35** амапаўцы прыцягнулі некалькі чалавек, паклалі на зямлю каля дома №64, што на Вялікім Гасцінцы, і сталі збіваць дубінкамі. Побач стаяў начальнік Маладзечанскага РАУС.

Каля **22:50** машына збіла чалавека, верагодна пратэстоўца, яго шпіталізавалі.

Каля **23:00** асноўная частка людзей перамясцілася на скрыжаванне Вялікі Гасцінец–Касманаўтаў. Некалькі сведак пацвердзілі, што на Касманаўтаў, каля бара «Блэк фокс» супрацоўнікі органаў узарвалі святла-шумавую гранату. Да **00:00** пратэстоўцы разышліся, супрацоўнікі міліцыі дзяжурылі на цэнтральных вуліцах яшчэ некалькі гадзін.

**Аддзел інфармацыі.**
**Фота Настассі УТКІНАЙ.**

# У Лебедзеве АМАП затрымаў людзей, якія неслі калектыўную заяву ў сельвыканкам

**Карэспандэнты нашай газеты знаходзіліся на месцы падзей.**

Жыхары Лебедзева, каля дзесяці чалавек, разам з дэпутатам 28 склікання Лебедзеўскага сельскага Савета дэпутатаў **Аляксандрам Грымацем** неслі заяву ў Лебедзеўскі сельвыканкам, старшыні **Тамары Дудзіч**.

Раней Аляксандр Грымаць працаваў участковым інспектарам РАУС. У размове з журналістамі актывіст **Сяргей Бігель** адзначыў, што гэтым зваротам яны хочуць падкрэсліць, што цяперашнія падзеі ў Беларусі хвалююць не толькі Мінск і гарады, але і вёскі і мястэчкі.

У звароце жыхары заклікаюць спыніць беззаконне і гвалт, вырашаць канфлікт абодвум бакам праз мірныя перамовы. Дэпутата таксама затрымалі.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Затрымалі чатырох мужчын, сярод якіх – дэпутат.

У гэты момант да людзей пад'ехаў бус, з яго выбеглі амапаўцы, пачаліся затрыманні.

Супрацоўнікі праваахоўных органаў жорстка збілі мужчын, нецэнзурна лаяліся і крычалі: «Вы разбурыць краіну хочаце?». Затрымалі чатырох мужчын. Сярод іх дакладна былі дэпутат Грымаць і Бігель.

**Аддзел інфармацыі.**

# АМАП у Маладзечне збіў рэаніматолага дзіцячай бальніцы

**Гэта нам пацвердзіў сам анестэзіёлаг-рэаніматолаг Маладзечанскай дзіцячай бальніцы Алег Архіповіч.**

Доктара затрымалі на Цэнтральнай плошчы 9 жніўня, калі ён збіраўся ісці дадому. Супрацоўнікі АМАПа ударылі дубінкай па галаве. Доктар упаў на зямлю, яго працягвалі збіваць. Пасля закінулі ў машыну, туды ж запакавалі яшчэ аднаго маладога чалавека.

Мужчын прывезлі ў райаддзел міліцыі. Там дасталі з машыны і зноў збівалі. Пасля надзелі наручнікі і завялі ў будынак, дзе кінулі на падлогу.

Праз хвіліну завялі ў кабінет, дзе затрыманыя праседзелі каля дзвюх гадзін. Доктару стала кепска, яго забрала «Хуткая дапамога».

Рэаніматолаг адзначае, што яго жыццю нічога не пагражае.

**Аддзел інфармацыі.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**202**

столькі чалавек затрымалі на акцыях пратэсту ў Маладзечне 9 і 10 жніўня.

**Паводле інфармацыі праваабаронцаў.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.08 | 13.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 2.4368 | **2.4583** |
| **Еўра** | 2.8821 | **2.8858** |
| **Злоты, 10** | 6.5736 | **6.5607** |
| **Расійскі рубель, 100** | 3.3288 | **3.3576** |
| **Грыўня, 100** | 8.8078 | **8.9353** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **5.08** | **12.08** |
| **Еўра** | 2.8200/2.9300 | **2.8600/2.9700** |
| **Долар ЗША** | 2.4000/2.4900 | **2.4500/2.5300** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 5.08 | 12.08 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| **Кілбаса «Мядовая», 1 кг** | 20,80 | **21,85** |
| **Кураня-бройлер, 1 кг** | 3,25 | **3,25** |
| **Сасіскі, 1 кг** | 7,60 | **7,60** |
| **Свініна (выразка), 1 кг** | 9,00 | **9,50** |
| **Карп жывы, 1 кг** | 5,20 | **5,20** |
| **Мінтай свежамар., 1 кг** | 6,30 | **6,20** |
| **Селядзец, 1 кг** | 5,50 | **5,50** |
| **Скумбрыя х/в, 1 кг** | 16,90 | **16,90** |
| **Грэчка, 0,8 кг** | 2,00 | **2,30** |
| **Рыс, 0,8 кг** | 2,00 | **2,40** |
| **Алей, 1 л** | 2,60 | **3,00** |
| **Кава «Nescafe», 100 г** | 4,50 | **4,80** |
| **Маянэз, 400 г** | 2,15 | **2,15** |
| **Соус «Мінскі», 0,5 л** | 1,30 | **1,60** |
| **Шпроты, бляшанка, 160 г** | 1,70 | **1,85** |
| **Яйкі курыныя, 1 дз.** | 1,80 | **1,80** |
| **Агуркі, 1 кг** | 1,50 | **1,50** |
| **Бульба, 1 кг** | 0,90 | **0,80** |
| **Буракі, 1 кг** | 1,00 | **1,00** |
| **Капуста, 1 кг** | 0,90 | **0,80** |
| **Капуста пекінская, 1 кг** | 2,20 | **2,20** |
| **Морква, 1 кг** | 1,20 | **1,20** |
| **Памідоры, 1 кг** | 2,40 | **2,90** |
| **Перац, 1 кг** | 4,50 | **2,80** |
| **Цыбуля рэпчатая, 1 кг** | 1,20 | **1,20** |
| **Часнок, 1 кг** | 5,90 | **6,50** |
| **Апельсіны, 1 кг** | 4,50 | **4,90** |
| **Бананы, 1 кг** | 2,50 | **2,30** |
| **Вінаград, 1 кг** | 5,90 | **4,50** |
| **Грушы, 1 кг** | 4,50 | **3,90** |
| **Дыня, 1 кг** | 2,00 | **2,50** |
| **Кавун, 1 кг** | 1,50 | **1,50** |
| **Ківі, 1 кг** | 6,50 | **4,90** |
| **Лімон, 1 кг** | 4,50 | **3,90** |
| **Мандарыны, 1 кг** | 5,80 | **5,50** |
| **Нектарыны, 1 кг** | 4,50 | **5,50** |
| **Персікі, 1 кг** | 4,30 | **3,50** |
| **Чарэшні, 1 кг** | 6,50 | **5,50** |
| **Яблыкі, 1 кг** | 3,00 | **2,99** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако, 1,5 л** | 1,50 | **1,50** |
| **Масла, 1 кг** | 16,00 | **16,00** |
| **Сала, 1 кг** | 13,00 | **12,50** |
| **Сыр, 1 кг** | 12,00 | **13,00** |
| **Тварог, 1 кг** | 7,00 | **7,00** |
| **Яйкі, 1 дзясятак** | 3,00 | **3,00** |

## Невядомы кіроўца збіў насмерць пешахода і ўцёк. ДАІ шукае машыну

ВІЛЕЙКА

Каля гадзіны ночы 12 жніўня ў Вілейцы на вуліцы Вадап'янава, побач з крамай «Рытуальныя паслугі», неўстаноўленая машына збіла пешахода.

У выніку 33-гадовы пешаход ад атрыманых траўмаў загінуў на месцы ДТЗ. Кіроўца з месца трагедыі ўцёк, паведамляюць у ДАІ Вілейкі.

Прыкметы аўтамабіля:

марка «Ровэр»

колер серабрысты

пашкоджанні – пярэдні бампер, пярэдняя частка аўтамабіля.

Сведак і відавочцаў здарэння просяць адгукнуцца па тэлефонах: **8(01771) 52-6-02, 102**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У ДТЗ загінуў пасажыр аўтамабіля

ВІЛЕЙКА

Аварыя здарылася 8 жніўня каля дзевяці раніцы.

Па папярэдняй інфармацыі, на дарозе паміж Іліішчавічамі і Шылавічамі 43-гадовы кіроўца «Таёты» на павароце не справіўся з кіраваннем і заехаў у дрэва. У выніку загінуў 36-гадовы пасажыр. Кіроўца атрымаў цялесныя пашкоджанні. Ніхто з іх не быў прышпілены рамянямі бяспекі.

**Паводле МУС.**

## Затрымлівалі дырэктара крамы Symbal.by

ВАЛОЖЫН

Пра гэта паведаміў сам дырэктар сталічнай крамы **Павел Белавус** у сацсетках.

Па словах Паўла, ён ехаў галасаваць. У Валожынскім раёне яго спынілі работнікі ДАІ і павезлі ў Валожын.

**Паводле Радыё Свабода.**

## «Крайслер» заехаў у «Хонду», што стаяла на ўзбочыне

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя здарылася 8 жніўня, каля чатырох дня, на 41 кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач. Пацярпелі і пасажыры, і адзін кіроўца.

– 31-гадовы жыхар Алёхнавічаў ехаў па аўтатрасе Р-58 на аўтамабілі «Крайслер» у бок Маладзечна. На 41-кіламетры дарогі пры з'ездзе на правую адносна руху ўзбочыну ён наехаў на аўтамабіль «Хонда-Джаз», які стаяў. За рулём «Хонды» была 40-гадовая мінчанка, – расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

Па яе словах, пацярпелі кіроўца і пасажыры аўтамабіля «Хонда-Джаз» і пасажыр «Крайслера».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Валанцёры знайшлі зніклага 4 жніўня вілейчука. Ён загінуў

ВІЛЕЙКА

6 жніўня падчас пошукавых мерапрыемстваў на Вілейшчыне знайшлі 35-гадовага мужчыну, які 4 жніўня, раніцай, з'ехаў у невядомым кірунку на сваёй машыне і знік. Віляйчук загінуў. Пра гэта расказалі валанцёры пошукава-выратавальнага атрада «Анёл».

Зніклага знайшлі каля вёскі Татараўшчына Крывасельскага сельсавета. Крыху раней знайшлі машыну, на якой мужчына з'ехаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота АДАІ Маладзечна.

На месцы здарэння.

# Збілі жанчыну-пешахода

### Яе забралі ў рэанімацыю

**7 жніўня каля васьмі вечара ў Маладзечне, у пачатку Вялікага Гасцінца, здарылася аварыя, расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна Дыяна Галуза. Пацярпеў пешаход.**

МАЛАДЗЕЧНА

19-гадовы кіроўца, жыхар вёскі Мароські, на машыне «Рэно-19» ехаў па Вялікім Гасцінцы ў кірунку Смаргоні. У крайняй правай паласе руху, побач з домам №2, наехаў на 47-гадовую маладзечанку, якая пераходзіла дарогу па нерэгулюемым пешаходным пераходзе злева направа па ходу руху аўто.

Пацярпелую шпіталізавалі ў рэанімацыю Маладзечанскай ЦРБ.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ля Ільі машына збіла дзяўчыну на пераходзе

ВІЛЕЙКА

ДТЗ здарылася 6 жніўня каля 17 гадзін на аўтадарозе Мінск-Калачы-Мядзел. Пацярпела 17-гадовая дзяўчына-пешаход.

Як расказаў карэспандэнту начальнік Вілейскай ДАІ **Руслан Скварцоў**, 39-гадовая мінчанка ехала па аўтатрасе ў кірунку Мінска з боку Ільі. На 63-м кіламетры дарогі, недалёка ад Ільі, на нерэгулюемым пешаходным пераходзе яна наехала на 17-гадовую дзяўчыну.

Дзяўчына пераходзіла дарогу па пераходзе справа налева ў адносінах да аўтамабіля. Пацярпелая – мінчанка. На Вілейшчыне яна была ў гасцях у сваякоў.

Дзяўчыну з цялеснымі пашкоджаннямі забралі ў Вілейскую ЦРБ. Там медыкі дапамаглі ёй і адпусцілі дамоў. Па ДТЗ праводзіцца праверка.

У Вілейскай ДАІ нагадваюць: кіроўца павінны быць уважлівым на пешаходным пераходзе. Але і пешаход перад тым, як выйсці на пераход, павінны пераканацца ў сваёй бяспецы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Гарэў камбайн

СМАРГОНЬ

Пажар здарыўся 5 жніўня каля шасці вечара проста на полі ля вёскі Сачаняты Жодзішкаўскага сельсавета.

Агонь пашкодзіў матор, праводку, знішчыў заднія колы і два акумулятары. Прычыну здарэння высвятляюць.

**Паводле сайта МНС.**

# Першы міністр замежных спраў: «Радзімай лічу Вілейшчыну і Мядзельшчыну»

## Гутарым з Пятром Краўчанкам у яго 70-гадовы юбілей

**Вы ведалі, чаму беларускі палітык, дыпламат, гісторык, першы міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка лічыць сваёй радзімай Вілейшчыну і Мядзельшчыну? Што значыла ў яго жыцці Маладзечна? Як міністр адкрываў Беларусь для свету? І чаму ў 1991 годзе на сесіі Генасамблеі ААН упершыню ў гісторыі Беларусі ён з'явіўся ў вышыванцы? У юбілейныя для Пятра Кузьміча дні прапануем чытачам размову з ім.**

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

Пётр Кузьміч нарадзіўся ў Смалявічах, дзе бацька працаваў старшынёй калгаса. Але прызнаўся, што сапраўднай радзімай лічыць Вілейшчыну і Мядзельшчыну:

– Мае карані з невялікай вёскі Літвінкі, што на ўскрайку мястэчка Куранец. Сёння вёска амаль супадае з геаграфічным абшарам мястэчка. З Літвінак мой дзед па маці – **Сяргей Мількота**. А бабуля нарадзілася ў 1906 годзе ў вёсцы Русакі, недалёка ад Княгініна, на Мядзельшчыне. Бацька бабулі, **Аляксандр**, быў адным з першых адукаваных людзей там жа. Ён жыў і працаваў лесніком у канцы 19 стагоддзя. Мы з гонарам прыгадваем у сям'і прадзеда. У яго было 14 дзяцей. Восем ці дзесяць чалавек з сям'і мелі музычныя інструменты і добра ігралі на іх у сямейным ансамблі, – расказвае пра свае карані Пётр Кузьміч.

**– А што для вас – Маладзечна?**

– Школьныя гады. У Маладзечна прыехаў у 1963 годзе. Спачатку хадзіў у Насілаўскую школу, потым – у маладзечанскую школу №5, а пасля – у школу №8. А яшчэ асоба кампазітара і дыпламата Міхала Клеафаса Агінскага. Першы раз паланэз «Развітанне з радзімай» я пачуў чатырохгадовым хлопчыкам, калі жыў у Крывічах. 31 снежня з радыёпрыёмніка загучала прыгожая мелодыя. І мама сказала мне, што гэта паланэз.

**– Вы былі выкладчыкам, навукоўцам, дэпутатам, міністрам. У якім амплуа адчувалі сябе больш утульна?**

– Адназначна – гэта часы студэнцтва, аспірантуры, выкладчыцкай працы ў БДУ на гістарычным факультэце. У 25 год абараніў дысертацыю на тэму «Эканамічныя і культурныя сувязі БССР з замежнымі краінамі ў 1921-1932 гадах». Гэта была першая дысертацыя па гісторыі міжнародных адносін у Беларусі. Перыяд выкладання з улікам аспірантуры доўжыўся сем гадоў – ад 1972 да 1979 года.

**– Чаму ж сышлі?**

– Толькі таму, што мяне запрасілі працаваць у партыйныя органы. Я жыў у інтэрнаце, ужо меў дваіх дзяцей. Кватэру мог атрымаць праз 10-20 год. А перайшоўшы ў партыйныя органы, праз два гады атрымаў нядрэнную кватэру. Як кандыдат навук атрымаў яшчэ і дадатковую плошчу – 20 квадратных метраў – для працоўнага кабінета. Гэта быў вымушаны пераход, звязаны з жыццёвымі абставінамі, клопатам пра сям'ю.

**– Што ведаюць замежнікі пра Беларусь?**

– Я быў прыкладна ў 150 краінах. Там у канцы 1980 – пачатку 1990-х Беларусь была тэра інкогніта – краіна невядомая, нягледзячы на тое, што ад 1945 года мы былі сябрамі ААН. Толькі некалькі соцень дыпламатаў ведалі пра Беларусь. А свет нават не здагадваўся, што ёсць такая краіна. Мая дзейнасць на працягу чатырох гадоў у якасці міністра была накіраваная на тое, каб з тэра інкогніта зрабіць краіну вядомую. Гэта быў прарыў у свет. Не толькі палітыка-дыпламатычны праз падпісанне міжнародных пагадненняў, але і інфармацыйны прарыў. У якасці асноўнага аргумента, каб выклікаць зацікаўленасць у іншых краін, я стаў выкарыстоўваць культуралогію – асобы Францыска Скарыны, Марка Шагала, Зміцера Шастаковіча, Ігара Стравінскага, Адама Міцкевіча, Ігната Дамейкі. Мова культуры ўніверсальная. Чалавеку, які стаіць ля карціны беларускага мастака, не трэба расказваць, што там намалявана. Культура – самы просты шлях да сэрца замежнікаў.




Сваю першую вышыванку, зробленую мамай, Пётр Краўчанка апрануў у пяць год.

**– Што дарылі за мяжой у якасці прэзента?**

– Манету, якую выпусціў яшчэ дзяржбанк СССР з выявай Скарыны і невялікі зборнік паэзіі Марка Шагала ў перакладах Рыгора Барадуліна на некалькіх мовах. Я набыў зборнік накладам дзвесце асобнікаў і дарыў усім – прэзідэнтам, прэм'ер-міністрам, журналістам, каб яны даведаліся пра Беларусь, у якой нарадзіўся Марк Шагал. Такім чынам дзякуючы культуры, а пасля спартсменам, артыстам, прамысловай прадукцыі, дзякуючы таму, што мы адкрылі пасольствы ў 60 краінах свету, пра Беларусь даведаліся. Сёння гэта ўжо не тэра інкогніта.

**– Колькі замежных моў ведаеце? Ці карыстаецеся паслугамі перакладчыка?**

– У свой час я нядрэнна ведаў іспанскую, але абсалютна не ведаў англійскай. У пятай школе ў Маладзечне вучыў нямецкую мову, ва ўніверсітэце вывучаў іспанскую. Напрыклад, з міністрам замежных спраў Чылі ў Нью-Ёрку размаўляў па-іспанску. Англійская запатрабаваная больш. Мусіў вучыць яе. Цяпер не на самым высокім узроўні магу размаўляць па-англійску. Але на працягу многіх гадоў карыстаўся паслугамі перакладчыка. Лічу, што гэта правільны падыход. Калі гаворыцца фраза па-англійску, а пасля перакладчык яе некаторы час перакладае, можна добра прадумаць адказ. Калі ж застаешся тэт-а-тэт і можаш сказаць некалькі слоў сураэмоўцы ад сябе, гэта таксама вельмі нядрэнна.

**– Можа, вашы дзеці пайшлі ў дыпламаты?**

– У нас з жонкай сын і дачка. Яны закончылі факультэт міжнародных зносін, але ні дня не працавалі ў дыпламатычных адносінах.

**– 70 год – гэта многа ці мала?**

– Гэта столькі, колькі ёсць. Але цяжкару гадоў я не адчуваю. Падаецца, што я такі, як і ў 20 год. Адчуваю сябе шчаслівым чалавекам, жыву за горадам, у Раўбічах. Нядаўна пабудаваў дом. Будаваў 30 год – пачаў у канцы 1989 года і днямі скончыў. Чаму так доўга? Бо будаваў за свой заробак, сумленна. Сваімі рукамі пасадзіў сад з дзесяці дрэў, побач – лес і возера. Усё, што трэба для жыцця, у мяне ёсць – спакой, клопат і ўвага родных і сяброў. А яшчэ я ўдзячны радзіме, што дала мне магчымасць прадстаўляць Беларусь у свеце.

**Гутарыла Аксана ЯРАШОНАК.**

*Яшчэ адно вялікае інтэрв'ю з Пятром Краўчанкам чытайце ў бліжэйшых нумарах.*

## Яркія цытаты ад Пятра Краўчанкі

### Пра раёны Крывіцкі і Мядзельскі

– У пачатку 1950-х быў Крывіцкі раён. У народзе хадзіла прымаўка: «Максім Танк і Сяргей Прытыцкі прапілі раён Крывіцкі». Калі паўстала пытанне, які раён скасаваць: Мядзельскі ці Крывіцкі, нібыта Максім Танк сказаў Прытыцкаму, каб не чапаў Мядзельшчыну – родны раён паэта.

– Яўгена Іванавіча Скурко я пасля добра ведаў, сябраваў з ім. Маю дзесяць кніг з яго аўтографам. Неяк я спытаў у яго, ці праўда, што яны з Прытыцкім дамовіліся наконт скасавання Крывіцкага раёна. Паэт засмяяўся і сказаў, што такога не было. Я веру Яўгену Іванавічу.

### Пра мову

– Трэба вяртацца да каранёў, да мовы. Без мовы няма нацыі, няма незалежнасці. Як аўтар Закона аб мовах БССР, які я распрацоўваў разам з Нілам Гілевічам і Барысам Сачанкам, я заклікаю ўсіх бацькоў не цурацца мовы, штодзённа выкарыстоўваць яе. Калі немагчыма штодзённа, хаця б тады, калі сям'я збіраецца разам, калі нейкае сямейнае свята. Нашы дзеці і ўнукі павінны чуць, як гучыць беларускае слова.

### Пра вышыванку

– Калі ў 1991 годзе на сесіі Генеральнай асамблеі ААН у Нью-Ёрку я першы раз у нашай гісторыі як міністр апрануў вышыванку і выйшаў на трыбуну самай знакамітай міжнароднай арганізацыі, многія лічылі, што гэта пазёрства. Некаторыя мае дарадцы, дыпламаты казалі: «Што вы робіце? Усе ж будуць з вас смяяцца». Але свет, калі ўбачыў мяне ў вышыванцы, не смяяўся, а зацікавіўся. На гэта я і разлічваў. Пасля выступлення журналісты запыталі, адкуль вышыванка і якія перспектывы яе чакаюць. Я сказаў, што Беларусь мае свой нацыянальны строй. Адзначыў, што пройдзе некалькі год і вышыванка стане абавязковым нацыянальным строем для залатой моладзі Беларусі. І мы будзем ганарыцца тым, што маем вышыванку. Аказалася, стаў прарокам. А першую вышыванку я апрануў у пяць гадоў. Мне вышыла яе маці.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21013, 1985 г.в.; матацыкл Днепр-11, 1989 г.в. Т. (8-044) 4860506.*

• Опель-Зафіра, 2003 г.в., 1,8 бензін. Добры стан, з Еўропы. Т. Вэлком (8-044) 7590989.

• Прычэп «Зубраня». Т. (8-044) 4703638.

• Электраровар. Т.МТС (8-029) 8732315.

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724, (8-033) 3631161.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на ходу для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Еўрарамонт. Цана дамоўная. Т. (8025) 5296374.*

• 3-пакаёвая кватэра з мэбляй і тэхнікай у Маладзечне, 77/45,3/9,5 кв.м, прасторная, светлая, свежы рамонт. Т. (8-029) 5531397.*

• Дом недабудаваны ў г. Астравец. Побач лес і возера. Т. (8-029) 5322793.*

• Дом у а/г Гальшаны па вул. Замкавай. Ёсць газ, водаправод, каналізацыя. Т. (8-029) 5846900, (8-029) 6064594.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у в. Маркуны, 28, Астравецкі раён. 10000 руб., торг. Т. (8029) 3681210.*

• Дом у в.Ракшыцы Ільянскага с/с, агульная плошча 49,4 кв. м, зямельны ўчастак 0,13 га, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-044) 7285930.

• Зруб. Т. (8-044) 4781306.*

• Участак 0,25 га са старым домам у в. Маліноўшчына Маладзечанскага раёна, вул. Лясная, 22. Т. (8-044) 4861632.*

### ЗДАМ

• Гараж 6х9 м у ГК №33 па вул. Міру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5753932.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселле, юбілей, карпаратыў. Музычнае афармленне. Вядучы. ІП Язневіч Л.М. УНП 692245902 Т. (8-044) 5945440.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Абітурыентам і школьнікам. Хімія. Біялогія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ДЭМАНТАЖ**. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601 Т. (8-029) 5417847, (8-029) 3057579.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8029) 3395974.*

• Работа са шклом (стекольные работы). Дастаўка, нарэзка, устаноўка шкла і люстэрак. ІП Ціхановіч П.П. УНП 691506875 Т.(8-029) 9512185, (8-033) 3293993.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ.** АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

• Трымер здаю напракат або прадам. Т. (8-029) 5322793.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*



• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік. Т. (8029) 3395974.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

• Фартэпіяна «Беларусь» у добрым стане. (8-044) 5733434.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова 6 гадоў, 8 гадоў, цялушка Абердзін-ангуская 1 год 5 мес. (мясной пароды). Т. (8044) 5860701.*

• Парасяты кармалаў. Куплю рухавік ЗІД-4,5. Т. (8-029) 7621019, (8-044) 5321975.

**Іншае**

• Дровы, дошкі. Т. (8-029) 6106061.*

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Лазневые венікі, бяроза і дуб. Т. (8-029) 7561245.

• Пшаніца, жыта, бульба буйная, дробная. Т. (8-033) 6020455, (8-044) 4930237.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8025) 7894666.*

• Стол-трансформер, варачная газавая панэль і электрычная духавая шафа. Тэрмінова! Цэны дагаворныя. Т. (8-029) 8737092.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### ІНШАЕ

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Аддам шчанятак у клапатлівыя рукі. Т. (8-044) 7438947.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 (А1).


Фота Настассі УЛІНАЙ.

Беларуская АЭС.

# На АЭС пачалі загрузку паліва

**На першым энергаблоку Беларускай АЭС (генеральны праекціроўшчык і генеральны падрадчык – інжынірынгавыя дывізіён Дзяржкарпарацыі «Расатам») 7 жніўня пачалася загрузка ядзернага паліва, паведамляецца ў прэс-рэлізе «Расатама».**

АСТРАВЕЦ

У актыўную зону рэактара загружаная першая цеплавыдзяляльная зборка са свежым ядзерным палівам. Да канца месяца паслядоўна будуць загружаныя 163 цеплавыдзяляльныя зборкі.

Пасля загрузкі паліва рэактар будзе выведзены на мінімальна кантраляваны ўзровень (1% магутнасці), з правядзеннем адпаведных даследаванняў. З гэтага моманту рэактар набывае статус ядзерный энергетычнай установкі.

Пасля пацвярджэння надзейнасці і бяспекі работы энергаблока на праектных параметрах пачнецца этап энергетычнага пуску, падчас якога блок упершыню будзе ўключаны ў энергетычную сетку.

**Аддзел інфармацыі.**

## Спецыялісты нагадваюць пра ўмовы выкарыстання касавых апаратаў

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне нагадвае, што з улікам прапаноў, якія паступілі ад прадпрымальнікаў, і для таго, каб стварыць дадатковыя ўмовы для выкарыстання ў Беларусі праграмных кас, пераносяцца тэрміны падключэння кас да сістэмы кантролю касавага абсталявання, якое выкарыстоўваюць прадпрымальнікі (далей СККА).**

| Мэта дзейнасці | Тэрмін заключэння дагавора | Дата ўстаноўкі СКПО да ўступлення ў сілу дакумента | І пасля ўступлення ў сілу дакумента |
|---|---|---|---|
| Абласныя гарады і Мінск | Да 1 верасня 2019 | Да 1 лістапада 2019 | Да 1 кастрычніка 2020 |
| Раённыя гарады | Да 1 кастрычніка 2019 | Да 1 снежня 2019 | Да 1 лістапада 2020 |
| Рэспубліка Беларусь | Да 1 лістапада 2019 | Да 1 студзеня 2019 | Да 1 снежня 2020 |

Перанос тэрмінаў рэгламентуецца пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29 лістапада 2019 года №819/16 «Аб змяненні пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад 6 ліпеня 2011 №924/16» (далей – пастанова №819/16).

Павялічваюцца да 13 месяцаў тэрміны выкарыстання касавага абсталявання без устаноўкі сродку кантролю падатковых органаў (далей – СКПО) у выпадку заключэння дагавораў ІП з РУП «Інфармацыйна-выдавецкі цэнтр па падатках і зборах» на ўстаноўку, абслугоўванне і зняцце СКПО, згодна з часткай 2 падпункта 2.6 пункта 2 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад 6 ліпеня 2001 года №924/16 УП «Аб выкарыстанні касавага і іншага абслугоўвання пры прыёме сродкаў плацяжу».

Згодна з гэтымі зменамі, для ІП, пазначаных у сёмым абзацы падпункта 2.6 пункта 2 пастановы №924/16, перанесены тэрміны ўстаноўкі СКПО (гл. табліцу).

Да 1 снежня 2020 года падключэнне ў адзін момант да СККА касавага абсталявання ўсіх ахвотных будзе немагчымым.

Змены ўступілі ў сілу паэтапна ад 5 снежня 2019, 1 студзеня і 5 ліпеня 2020. Таму Інспекцыя па падатках і зборах нагадвае пра неабходнасць своечасовага падключэння касавага абсталявання да СККА і выкананне графікаў падключэння і рэкамендуе ІП, якія прымаюць грошы за рэалізаваныя тавары, актывізаваць працу ў гэтым кірунку. Спецыялісты звяртаюць увагу на неабходнасць выканання патрабаванняў падатковага заканадаўства і заканадаўства аб парадку прыёму грошай.

Усю неабходную інфармацыю па гэтай тэме вы можаце знайсці на афіцыйным сайце Дзяржаўнага камітэта па стандартызацыі.

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне.**

# «Нарадзіла шчасце і дапамогу»

## Маладзечанка з інваліднасцю – пра цяжарнасць, роды і выхаванне дачкі

**Маладзечанка Вікторыя Альшэўская рухаецца на вазку або хадунах з-за прыроджанай хваробы. Жанчына жыве разам з бацькамі і гадуе дачку. Пакуль маленькая Жэня спіць, гутарым з Вікторыяй пра цяжарнасць, пра цвёрдае рашэнне нарадзіць, пра тое, як выхоўваць дзіця маме з інваліднасцю.**



Вікторыя Альшэўская з дачкой Жэняй.

МАЛАДЗЕЧНА

### Падпісвала адмову ад перарывання цяжарнасці

– Калі зацяжарала, адразу вырашыла нараджаць. Праўда, спадзявалася, што будзе хлопчык, а не дзяўчынка, бо не ўмела коскі заплятаць, – прыгадвае Вікторыя падзеі 2016 года. – Тым больш, ужо і час падыходзіў – мне было 26. Бацькам сказаць пра цяжарнасць адразу не рашалася. Калі ж сказала – яны падтрымалі маё рашэнне.

Па словах Вікторыі, візіт цяжарнай з інваліднасцю ў жаночую кансультацыю ў Маладзечне медыкаў здзівіў і напалохаў:

– Яшчэ не забыліся тыя два жахлівыя выпадкі, калі за паўгода тут памерлі дзве жанчыны пасля родаў. А тут я са сваімі праблемамі. Мяне накіравалі ў Мінск, у абласную радзільню, а таксама на кансультацыю да генетыкаў у цэнтр «Маці і дзіцяці».

**Генетыкі далі заключэнне, што ніякіх супрацьпаказанняў у мяне няма, можна нараджаць. А доктар у абласной радзільні пачаў крычаць на мяне. Пытаўся, як я збіраюся жыць і гадаваць дзіця. Было вельмі крыўдна, – дзеліцца суразмоўца.**

Вікторыя паказвае медыцынскі дакумент, у якім напісана, што ёй трэба перарваць цяжарнасць з-за праблемам з псіхікай на фоне медыцынскіх прэпаратаў. Унізе за подпісам цяжарнай пазначана, што яна адмаўляецца ад аборта.

Па накіраванні медыкаў з абласной радзільні Віка шмат ездзіла па дактарах. Наведвала хірурга, нейрахірурга, рабіла ўльтрагукавое даследаванне нырак. На ўласнай машыне да дактароў возілі або бацька, або малодшая сястра. Ні адзін з гэтых дактароў не пацвердзіў, што жанчыне трэба перарываць цяжарнасць.

### Радасна адчуваць досвед мацярынства

Калі прыйшоў час, у цэнтры «Маці і дзіця» маладзечанцы зрабілі Кесарава. Віка засталася вельмі задаволеная стаўленнем медыкаў гэтай установы. Пакуль мама адыходзіла ад аперацыі, дзяўчынку не прыносілі, а пасля цэлы дзень яны былі разам. Дзіця забіралі толькі на ноч. Вікторыя адзначыла вельмі зручнае абсталяванне ў цэнтры. Кажа, яна сама, без дапамогі персаналу магла даглядзець і памыць дачку.

Сёння, калі Жэні ўжо тры, Віка ў хадунах ходзіць з ёй і на прагулку, і ў краму. Маміны хадуны маюць такую канструкцыю, што на іх можна пасадзіць дзяўчынку. Жэня любіць гуляць на дзіцячых пляцоўках. Але ў сваім двары такой няма. Мусяць хадзіць у іншы двор.

Гуляе з дачкой Віка амаль заўсёды сама. Кажа, бацькі ўжо выгадавалі сваіх, адчулі радасць бацькоўства. У Вікторыі ж гэта ўсё наперадзе, ёй хочацца самой займацца дачкой:

**– Мне хочацца з ёй гуляць, усюды хадзіць. Былі ў краме, дзе набывалі мне сонечныя акуляры, хадзілі ў дзіцячы забаўляльны цэнтр, у піцэрыю, – дзеліцца мама.**

### Для сваёй дачкі я звычайная мама

Трохгадовая Жэня ўжо дапамагае маме. Ведае, што трэба паднесці хадуны на другі паверх, у кватэру. Для сваёй дачкі я, напэўна, такая ж мама, як і ўсе. Яна не бачыць маіх асаблівасцей, але ведае, што дапамагчы трэба, кажа Віка.

Асабліва неспакойнай Жэня не была ніколі. Крыху пакапрызіла, як лезлі зубкі. Адзінае, маме было нялёгка аднесці памыць дзяўчынку, бо ванна месцілася не побач з іх пакоем. Каб крыху аблегчыць сабе жыццё, часам карысталіся вільготнымі сурвэткамі. А купалі дзяўчынку мама і сястра.

– Малодшая сястра, **Юля**, дапамагае мне з дачкой. У нас невялікая розніца – год і чатыры. Бацькі кажуць, што яны нарадзілі мне дапамогу. А жыццё склалася так, што Юля хутка назаўсёды з'язджае з Беларусі. Таму дапамогу сабе нарадзіла я сама, – кажа Віка.

### На вазок і калыску для дачкі зарабіла на бісеры

Да нараджэння дачкі мая суразмоўца працавала на «БелТІЗе». Дома збірала разеткі і выключальнікі. Калі працы было шмат, сядзела нават ноччу. Пасля мусіла звольніцца, бо зачынілі надомнае аддзяленне. Па словах суразмоўцы, заробак там мізэрны. І гэтыя грошы не вартыя таго, каб пакідаць дзіця і ехаць на працу на іншы канец горада.

Віка больш зарабляла на вырабах з бісеру. У 2015-16 гадах такія рэчы вельмі карысталіся попытам. Часам рэчы замаўлялі знаёмыя, часам Вікторыя прадавала іх праз інтэрнэт. У выніку за зароблены на бісеры грошы маладая мама змагла набыць і вазок, і калыску.

– Канешне, з працай для людзей з інваліднасцю ў нас усё дрэнна. Калі летась быў курс «Інклюзіўны барыста», запісалася на яго.

**Думала, у Маладзечне адкрыюць кавярню, дзе б працавалі людзі з інваліднасцю. Але такой кавярні мы не дачакаліся. Магчыма, у Мінску нам працаўладкавацца лягчэй. Але як я паеду туды з дзіцем, – дзеліцца праблемамі Віка.**

### Касыя позіркі? Да іх не прывыкаць

Хутка Жэня пойдзе ў садок. Ён побач з домам. Праўда, трапіць туды атрымалася не адразу. У сад хацелі запісаць, як толькі Жэня нарадзілася. Аднак ужо тады ў аддзеле адукацыі сказалі, што ўзяць яе не змогуць. Парэкамендавалі іншы садок, у які трэба ездзіць на аўтобусе. Тады сям'я звярнулася да дэпутата **Людмілы Кананóвіч:**

– Растлумачылі ёй нашу сітуацыю. Яна абяцала дапамагчы. Толькі сказала, каб нагадалі пра сябе, калі Жэні будзе тры. Мы нагадалі, і яна дапамагла. Вельмі прыемна, што сярод дэпутатаў ёсць такія людзі.

Касыя позіркі? Вікторыі не прывыкаць да іх. Адзначыла для сябе, што часцей чалавека з інваліднасцю як недачалавека ўспрымаюць людзі старэйшага пакалення:

**– Ведаеце, напэўна, гэта пайшло яшчэ з савецкага часу, калі людзей з інваліднасцю нібыта і не існавала.**

Але сярод маіх знаёмых ёсць людзі, якія жывуць паўнацэнным жыццём, самастойна, неяк спраўляюцца. Я таксама і працавала, і зарабляла, і дзіця нарадзіла і выхоўваю.

**Не разумею, чым я горшая за іншых. Самае крыўднае, што часам нават блізкія людзі не да канца ўпэўнены ў маёй самастойнасці. Я ніколі не кажу сабе: я не змагу. Я спрабую, – дзеліцца назіраннямі Віка.**

З татам дзяўчынкі і яго сваякамі Віка ў добрых адносінах. Унучка сустракаецца з бабуляй, прымае ад яе падарункі.

…Пакуль мы размаўлялі за гарбатай, прачнулася Жэня. Паказала свае шматлікія цацкі, дзіцячы ровар і любімую ляльку Мар'яшу.

– Калі прыходзім у цацачную краму, рэальна не ведаем, што купіць. Такое адчуванне, што ўсе цацкі ў яе ўжо ёсць, – усміхаецца Віка, спрабуючы заплесці коскі сваёй маленькай шустрай дзяўчынцы.



Тэкст і фота – Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Рык і Морцi»



Фота billionnews.ru.

**Амерыканскі камедыйны і навукова-фантастычны анімацыйны серыял, які стварыў Джасцін Ройланд і Дэн Харман. Прэм’ера серыяла адбылася ў снежні 2013 года ў інтэрнэце.**

### Сюжэт

Серыял прысвечаны вандроўкам цынічнага вар’ята вучонага **Рыка Санчэза** і яго наіўнага, капрызнага і няўпэўненага ў сабе ўнука **Морці**. Стваральнік серыяла Джасцін Ройланд агучвае абодвух персанажаў. Серыял, які вырас з анімацыйнай пароды на серыю фільмаў «Назад у будучыню», атрымаў надзвычай высокія водгукі крытыкаў.

### Асноўныя персанажы

**Рык Санчэз** (агучыў Джасцін Ройланд). Адзін з двух галоўных герояў, геніяльны і немалады навуковец, алкаголік з пастаяннай адрыжкай. Скептык, вельмі цынічны, буркліві, эгаістычны, але не пазбаўлены пачуцця гумару. З-за сваёй геніяльнасці нажыў сабе нямала ворагаў ва ўсім сусвеце. Нядаўна пераехаў да сваёй дачкі ў сям’ю Смітаў. З тых часоў амаль ва ўсе падарожжы адпраўляецца са сваім унукам Морці.

**Морці Сміт** (агучыў Джасцін Ройланд). Другі галоўны герой, унук Рыка, хлопчык 14 гадоў (на момант 3 сезона 15 гадоў), звычайны падлетак. Падарожнічаючы з дзедам, часта проста не разумее, што адбываецца, але перыядычна праяўляе кемлівасць. Закаханы ў Джэсіку. Пасля знішчэння насельніцтва роднай планеты Зямлі С-137 у выніку перабраўся разам з Рыкам у вымярэнне, дзе іх версіі загінулі пры няўдалым эксперыменце Рыка. Было яшчэ некалькі пераходаў у іншыя вымярэнні, пра што кажуць запісаныя ўспаміны Морці.

**Бэт Сміт (Санчэз)** (агучыла Сара Чок). Дачка Рыка, маці Морці і Самэр, і жонка Джэры, 34 гады. Працуе кардыяхірургам-ветэрынарам – пераважна конскім. Нарадзіла Самэр ў 17 гадоў, з чаго, па словах самой Самэр, «пастаянна робіць праблему». Мае праблемы з алкаголем, лічыць сябе непаўнавартаснай і баіцца, што бацька зноў кіне яе. У апошніх серыях трэцяга сезона Рык стварыў яе клон, але зрабіў так, каб самому не ведаць, хто ёсць хто.

**Джэры Сміт** (агучыў Крыс Парнэл). Бацька Морці і Самэр, зяць Рыка, муж Бэт, 34-35 гадоў. Як і Морці, наіўны і дурнаваты, моцна камплексуе з-за гэтага. Паджартоўвае з жонкі з нагоды таго, што яна «не сапраўдны хірург». Вельмі любіць фільм «Тытанік». Беспрацоўны, пра што яму перыядычна нагадваюць усе члены сям’і фразамі «Знайдзі працу». Некаторы час працуе рэкламным агентам. Цікавіцца грамадзянскім правам. Недалюблівае Рыка, і гэта пачуццё ўзаемнае.

**Самэр Сміт** (агучыла Спэнсар Грэмер). Старэйшая сястра Морці, 17 гадоў. Тыповы падлетак з адпаведным колам інтарэсаў. Часам падарожнічае з дзедам і малодшым братам і нярэдка выратоўвае іх. Лічыць выхадкі сваёй сям’і «дурнымі». Некаторы час працавала ў краме ў д’ябла. Вельмі прывязаная да свайго тэлефона. Лічыць сваё цела непрыгожым.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 17 АВГУСТА

**7.00, 16.15, 17.55, 21.05, 0.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.20** «Мульт-парад».
**7.30, 17.50, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**8.25** Т/с **«ИГРА. РЕВАНШ».**
**10.00** Мультфильмы «Пингвин и хрусталик».
**11.15** «Смотрим всей семьей». «Философский камень».
**13.45, 18.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**15.00** Т/с **«ЖЕНИТЬСЯ ИЛИ КАК?».**
**16.30** Х/ф **«ОСКАР».**
**19.15** «Суперлото».
**19.50** Т/с **«ПРЕСТУПЛЕНИЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«СОЗДАТЕЛЬ».**
**23.00** Х/ф **«ОМЭН 666».**

### ВТОРНИК, 18 АВГУСТА

**7.00, 15.40, 21.10, 0.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.50** «Мульт-парад».
**7.30, 15.45, 16.20, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35, 14.35** Т/с **«ТЕМНЫЙ КРИСТАЛЛ».**
**8.40, 19.15** Т/с **«ПРЕСТУПЛЕНИЕ».**
**9.30** Программа СБ ТВ.
**10.15** Х/ф **«СОЗДАТЕЛЬ».**
**12.05, 18.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**13.20** Т/с **«ЖЕНИТЬСЯ ИЛИ КАК?».**
**16.00** Кулинарная программа «Готовь как шеф!».
**16.25** Х/ф **«ТРИДЦАТЬ СВИДАНИЙ».**
**17.55** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ПЕЛЕ. РОЖДЕНИЕ ЛЕГЕНДЫ».**
**23.00** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ШАРОВАЯ МОЛНИЯ».**

### СРЕДА, 19 АВГУСТА

**7.00, 15.50, 21.10, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 8.25, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35, 15.00** Т/с **«ТЕМНЫЙ КРИСТАЛЛ».**
**8.40, 19.15** Т/с **«ПРЕСТУПЛЕНИЕ».**
**10.15** «Готовь как шеф».
**10.40** Х/ф **«ПЕЛЕ. РОЖДЕНИЕ ЛЕГЕНДЫ».**
**12.30, 18.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**13.45** Т/с **«ЖЕНИТЬСЯ ИЛИ КАК?».**
**16.20** Х/ф **«ДОРОГОЙ ПАПА».**
**17.55** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ИСТОРИЯ ОГНЕННОЙ САГИ».**
**23.20** Т/с **«ДРАКУЛА».**

### ЧЕТВЕРГ, 20 АВГУСТА

**7.00, 15.45, 21.10, 0.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.55** «Мульт-парад».
**7.30, 15.50, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35, 14.50** Т/с **«ТЕМНЫЙ КРИСТАЛЛ».**
**8.30, 19.15** Т/с **«ПРЕСТУПЛЕНИЕ».**
**10.00** Д/ф.
**10.20** Х/ф **«ИСТОРИЯ ОГНЕННОЙ САГИ».**
**12.20, 17.55** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**13.35** Т/с **«ЖЕНИТЬСЯ ИЛИ КАК?».**
**16.05** Х/ф **«ХОЛОДНОЕ ЛЕТО 53-ГО».**
**17.45** «Фешнізmyпрофешн».
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«АГЕНТЫ А.Н.К.Л.».**
**23.15** Т/с **«ДРАКУЛА».**

### ПЯТНИЦА, 21 АВГУСТА

**7.00, 15.50, 21.10, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35, 15.00** Т/с **«ТЕМНЫЙ КРИСТАЛЛ».**
**8.25, 19.15** Т/с **«ПРЕСТУПЛЕНИЕ».**
**10.00** «Удачные советы» СБ ТВ.
**10.15** Х/ф **«ВОДНЫЙ МИР».**
**12.30, 17.50** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**13.45** Т/с **«ЖЕНИТЬСЯ ИЛИ КАК?».**
**16.20** Х/ф **«МОРСКОЙ КОНВОЙ».**
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** «Герои комиксов на экране». «Морской бой».
**23.30** Т/с **«ДРАКУЛА».**

### СУББОТА, 22 АВГУСТА

**7.00, 14.00, 21.20, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «Моана».
**8.55, 16.50** «Приколы 13-й школы».
**9.00 Муз/ф «Собака на сене».**
**11.10** Х/ф **«НАСЛЕДНИЦА ПОНЕВОЛЕ».**
**14.05** «Смотрим всей семьей». «Гарри Поттер».
**16.55** Х/ф **«БУМ».**
**18.45** «Погода».
**18.50** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И ПРОЧИЕ НЕПРИЯТНОСТИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Фешн is my профешн».
**21.25** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ».**
**23.45** Х/ф **«КОМЕДИАНТ».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 23 АВГУСТА

**7.00, 14.05, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Том и Джерри. Квест».
**8.20, 15.50** «Приколы 13-й школы».
**8.25** «Готовь как шеф».
**8.45** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ».**
**11.05** Х/ф **«НАСЛЕДНИЦА ПОНЕВОЛЕ».**
**14.10** Мультфильмы «Смотрим всей семьей».
**15.55** «Погода» + Эрана.
**16.00** «Детектив на экране». «Тайна Эйфелевой башни».
**18.00** Т/с **«КАСЛ».**
**18.45, 1.20** «Погода».
**18.50** Х/ф **«ДНЕВНИК ПАМЯТИ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.20** Х/ф **«ХОЛОДНОЕ ТАНГО».**
**23.05** Х/ф **«ВОДНЫЙ МИР».**



## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 17 АВГУСТА

**6.30** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**9.00** Х/ф **«ТАРИФ НОВОГОДНИЙ».**
**10.50** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**12.40, 14.40, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**14.55** Новости БЖД.
**15.10** Х/ф **«НА МОРЕ!».**
**16.50** Х/ф **«ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА».**
**18.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.30** Мастерство и фантазия.
**20.20** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**

### ВТОРНИК, 18 АВГУСТА

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«100 МИЛЛИОНОВ ЕВРО».**
**10.00** Х/ф **«ХОРОШИЙ МАЛЬЧИК».**
**12.45** Актуально.
**13.00** Х/ф **«НА КРЮЧКЕ».**
**15.00, 22.20** Мажорный лад.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.30** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ».**

### СРЕДА, 19 АВГУСТА

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**7.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.20** Будьте здоровы.
**7.50, 8.30, 18.50, 21.50** Афиша.
**8.00** Время местное. Итоги.
**13.00** Х/ф **«КЛИК. С ПУЛЬТОМ ПО ЖИЗНИ».**
**14.50** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**16.25** Новости БЖД.
**16.50, 22.20** Мажорный лад.
**18.35** Протокол.
**19.20** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.

### ЧЕТВЕРГ, 20 АВГУСТА

**6.30, 7.20** Песня на завтрак.
**7.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.50, 18.50** Афиша.
**8.00** Новости: время местное.
**8.20** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**13.00** Х/ф **«ХОРОШИЙ МАЛЬЧИК».**
**14.55** Актуально.
**15.10** Х/ф **«М+Ж».**
**16.30** Х/ф **«ТРЕЗВЫЙ ВОДИТЕЛЬ».**
**19.30** Живые голоса истории.
**20.20** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**22.20** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 21 АВГУСТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30** Будьте здоровы.
**8.15** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**10.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**13.00** Х/ф **«КЛИК. С ПУЛЬТОМ ПО ЖИЗНИ».**
**14.50** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**16.10** Х/ф **«СТАЖЕР».**
**18.50** Афиша.
**19.30** На вячоркі да Фядоркі.
**20.20** Х/ф **«БАРМЕН».**
**22.20** Мажорный лад.

### СУББОТА, 22 АВГУСТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30** Протокол.
**7.40, 22.20** Мажорный лад.
**8.20, 18.50, 21.50** Афиша.
**8.30** Мая Радзіма.
**8.45** Регион: вчера, сегодня, завтра.
**9.00** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**10.50** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**13.20** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**15.20** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**17.10** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**19.20** Волшебная книга МЧС.
**19.30** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 23 АВГУСТА

**6.30** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**9.00** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**10.50** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**
**12.50** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЙ ПОЛДЕНЬ».**
**14.50** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО».**
**16.40** Х/ф **«ТОЛСТЯК ПРОТИВ ВСЕХ».**
**18.25** Х/ф **«КОПЫ В ГЛУБОКОМ ЗАПАСЕ».**
**20.00** Х/ф **«БАБЛО».**
**21.30** Х/ф **«СОНИК В КИНО».**

# нядзеля, 23 жніўня

## Беларусь 1

**6.20** Х/ф **«НЕПРЕДВИДЕННЫЕ ОБСТОЯТЕЛЬСТВА».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.30** Зона Х. Итоги недели.

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«КОЛДОВСКОЕ ОЗЕРО».**

**14.25** Маршрут построен.

**15.15** Твой город.

**15.30** Один день.

**16.05** Судьба гигантов.

**16.45, 19.10** Х/ф **«ДОЛГИ СОВЕСТИ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«СЖИГАЯ МОСТЫ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.40** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.25, 19.40** Телебарометр.

**9.30** «Супержена». Реалити-шоу.

**10.20** «Четыре свадьбы». Реалити-шоу.

**11.40** «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу.

**12.30** Х/ф **«ЖАЖДА СКОРОСТИ».**

**14.40** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.05** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.55** Х/ф **«ВСЕ ЕЩЕ ЭЛИС».**

**20.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«АСТРАЛ 3».**

**23.05** «Третий лишний». Реалити-шоу [СТ].

**0.05** «Муж напрокат». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.30, 20.20** Навіны культуры.

**8.20** «Гэты дзень».

**8.25** «Тры таўстуны». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Бонды з юшкай.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Халоднае лета пяцьдзясят трэцяга…» Мастацкі фільм [СТ].

**13.50** «Камертон». Народны артыст Беларусі Уладзімір Громаў.

**14.15 Т/ф «БАГЕМА».**

**16.05** «Запіскі на палях». Пімен Панчанка: сінія касачы для паэта-філосафа [СТ].

**16.35** Канцэрт «Славянскі базар-2020».

**18.35** «Архітэктура Беларусі» [СТ].

**18.50** «Будзьце маім мужам». Мастацкі фільм [СТ].

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Фурцава». Шматсерыйны мастацкі фільм. 9-я – 12-я, заключная, серыі.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.10** ОНТ представляет: «Сладчына».

**8.05** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Премьера ОНТ: «Народный повар».

**11.00** «Видели видео?».

**12.45** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**14.00** Т/с **«ТОНКИЙ ЛЁД».**

**16.20** Х/ф **«СВАДЬБА ПО ОБМЕНУ».**

**18.15** «Три аккорда».

**20.00** «Контуры».

**21.20** К 25-летию Первого канала. «Точь-в-точь». Лучшее.

**23.20** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.40** Х/ф **«ФОРМУЛА ЛЮБВИ».**

## СТВ

**6.00, 23.45** «Пища богов».

**7.40, 20.50** Документальный спецпроект.

**9.25** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** Документальный проект.

**11.30, 13.40, 16.40** Т/с **«НЮХАЧ 3».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.30** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Х/ф **«МЕСТЬ И ЗАКОН».**

**6.00** Мультфильмы.

**7.10** Х/ф **«ФИНИСТ-ЯСНЫЙ СОКОЛ».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости (бегущая с трока).

**10.10** Т/с **«КОГОТЬ ИЗ МАВРИТАНИИ».**

**14.10, 16.15** Т/с **«КОГОТЬ ИЗ МАВРИТАНИИ-2».**

**18.25** Т/с **«СТРАСТИ ПО ЧАПАЮ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.05** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.40** «50 рецептов первого».

**7.15** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**10.55** «Чудо техники».

**11.45** «Дачный ответ».

**12.45** «НашПотребНадзор».

**13.45** Истории спасения.

**14.15** Х/ф **«ИСПАНЕЦ».**

**16.00** «Следствие вели…».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** Ты не поверишь!

**21.05** «Звезды сошлись».

**22.30** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«РОМАН С ПРОШЛЫМ».**

**10.20, 11.30** Х/ф **«СВОДНАЯ СЕСТРА».**

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**14.20, 21.15** Т/с **«ЗАМОК ИЗ ПЕСКА».**

**23.00** «В людях».

**23.30** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.20** Форсаж. **8.10** Двойной форсаж. **10.00** Тройной форсаж: Токийский дрифт. **11.50** Одноклассники. **13.35** Одноклассники 2. **15.20, 5.00** Голубая лагуна. **17.10** Возвращение в Голубую лагуну. **19.00** Ультрафиолет. **20.30** Идеальный побег. **22.10** Лица в толпе. **0.00** Герцогиня. **1.55** Колесо чудес. **3.30** Гномео и Джульетта.

### TV1000 ACTION

**6.10** Парк Юрского периода. **8.25** Парк Юрского периода 2: Затерянный мир. **10.35** Парк Юрского периода 3. **12.05** Инопланетное вторжение: Битва за Лос-Анджелес. **14.05** Титан. **15.45** Атлантида. **17.35** Ведьма из Блэр: Курсовая с того света. **19.00, 5.10** Шесть демонов Эмили Роуз. **21.00** Избави нас от лукавого. **23.05** Соната. **0.35** Экспат. **2.50** Вспомнить всё.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.00** Ворошиловский стрелок. **8.40** Код апокалипсиса. **10.35, 12.10** Х/ф. **13.50** Проводник. **15.25** Я худею. **17.10** Небесный суд. **19.00, 5.30** Вурдалаки. **20.30** Тёмный мир. **22.15** Тёмный мир: Равновесие. **0.10** Любовницы. **2.05** Завтрак у папы. **3.55** Мужчина с гарантией.

### ТВ3

**6.00, 9.15** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **8.45** «Новый день». **10.45** «Погоня за вкусом». **11.45** Х/ф **«СЛАДКИЙ НОЯБРЬ». 14.15** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА». 16.30** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА-2». 19.00** Х/ф **«В ТИХОМ ОМУТЕ». 21.00** Х/ф **«ПРОЧЬ». 23.00** Х/ф **«ДОМ ВОСКОВЫХ ФИГУР». 1.15** Х/ф **«БЕЗУМИЕ 13». 2.45, 3.30, 4.00, 4.45, 5.30** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«АЛЕКСАНДРОВСКИЙ САД». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ИЗМЕНА». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ЗАКОН ОБРАТНОГО ВОЛШЕБСТВА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ОПЕРА. ХРОНИКИ УБОЙНОГО ОТДЕЛА. НОВАЯ ВЕРСИЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.35** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ЖИВЕТ ТРИ ГОДА». 3.40** Х/ф **«ЗАХОЧУ И СОСКОЧУ. МАСТЕР-КЛАСС». 5.50** Х/ф **«ЗАХОЧУ И СОСКОЧУ. СУПЕРГЕРОИ». 7.45** Х/ф **«ФАНАТКИ НА ЗАВТРАК НЕ ОСТАЮТСЯ». 9.45** Х/ф **«ВОРЧУН». 11.45** «Высшая лига». **13.45** Х/ф **«ВЫСШАЯ ЛИГА 2». 15.45** Х/ф **«ИСПОВЕДЬ НЕВИДИМКИ». 17.40** Х/ф **«БЕЗ ЧУВСТВ». 19.30** Х/ф **«ВСЕ ИЛИ НИЧЕГО». 21.35** Х/ф **«ЧЁРНЫЙ РЫЦАРЬ». 23.25** Х/ф **«МАЛЬЧИШНИК В ЕВРОПЕ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.15, 1.15** Т/с **«КОРОЛЕВА ПРИ ИСПОЛНЕНИИ». 2.10, 3.40, 4.40, 5.45, 6.45, 7.45, 8.50, 9.50, 10.50, 11.55, 12.55, 14.00** Т/с **«ВИРТУОЗЫ». 15.00** Т/с **«ШЕРЛОК: ЭТЮД В РОЗОВЫХ ТОНАХ». 16.50** Т/с **«ШЕРЛОК: СЛЕПОЙ БАНКИР». 18.35** Т/с **«ШЕРЛОК: БОЛЬШАЯ ИГРА». 20.25** Т/с **«ШЕРЛОК: СКАНДАЛ В БЕЛГРАВИИ». 22.20, 23.20** Т/с **«КОНСУЛЬТАНТ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.30** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «САРАНХЭ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45** Х/ф **«ЛОРАКС». 14.25, 15.55, 21.00, 0.05** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **16.55** Х/ф **«ЗЕЛЁНЫЙ ШЕРШЕНЬ». 19.10** Фэнтези «ТЁМНАЯ БАШНЯ». **22.25** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.25** Шоу «НАШ РЕМОНТ». **1.20** «ПРОСТО КУХНЯ». **1.50** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **2.40** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.20** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.30** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 22-й тур. Динамо-Брест – Белшина (Бобруйск). **8.15, 10.50, 18.00** Теннис. WTA. Цинциннати. **9.50, 12.20** Биатлон. Кубок федерации. Второй этап. Гомель. **13.30** Гандбол. Кубок Беларуси. Мужчины. Матч за 3-е место. **15.10** Спорт-микс. **15.20** Тренировочный день. **15.50** Гандбол. Кубок Беларуси. Мужчины. Финал. В перерыве Спорт-центр. **17.30** Пит-стоп. **19.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 22-й тур. Неман (Гродно) – БАТЭ (Борисов). В перерыве Спорт-центр. **21.50** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. Финал. В перерыве Спорт-центр. **0.20** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура.

### EUROSPORT

**0.00** Велоспорт. E3. **1.00** Покер. Partypoker Millions. **2.00** Снукер. China Championship-2019. Финал. Мёрфи – М. Уильямс. **4.00** Автогонки. World Endurance. Спа. **6.00, 7.00, 8.00, 20.10, 21.10** Теннис. US Open-2019. Седьмой день. **9.30, 11.00** Снукер. World Open-2019. 1/2 финала. **12.30** Снукер. World Open-2019. Финал. **14.00** Велоспорт. Чемпионат Франции-2019. Мужчины. Групповая гонка. **15.15, 22.00** Велоспорт. Чемпионат Франции. Мужчины. Групповая гонка. **18.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Летний Гран-при. Висла. HS 134. Команды. **18.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Летний Гран-при. Висла. HS 134.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Это Родина твоя. **6.30** Тайный покупатель. **6.45, 7.30, 17.25, 18.15** Возвращение легенды. **7.15, 8.15, 17.55, 18.50** Легенды автопрома. **7.55, 10.45, 13.30, 16.50, 19.15, 23.35, 1.25, 3.50** Итоговые новости. **8.45** Резьба по стали. **9.15** Тест с дядей Ваней. **9.35** Мотогараж. **10.05** Мото тест-драйв. **11.00** Проверка на дороге. **11.20** Вторичка. **11.35, 19.35, 22.45** Поехали на рыбалку! **12.05, 20.05, 23.15, 3.40** Авто: вторые руки. **12.40, 20.20, 23.45, 4.05** Трасса А2. **13.45, 1.00** Испытание на прочность. **14.20** Все включено. Эксклюзив. **14.35, 1.45** Тест на «Драйве». **15.40, 21.10, 4.50** 9 злобных водителей. **16.10** Байки про байки. **17.05, 22.25** Эконом-тест. **19.10, 0.50** Наезд! **21.45, 5.20** Вечер с Пикуленко. **0.35** Автолайф. **2.40** Сити тестер. **3.10** Байкал-трофи.

### EXPLORE

**6.00, 7.00, 7.55** Речные чудовища. **8.45** Могучие реки. **9.35, 10.00, 23.45, 0.10, 0.35, 1.00** Нефритовая лихорадка. **10.25** Строительство гигантов. **11.15, 21.25** Поисковая команда в Австралии. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.10, 15.55, 16.40, 17.30, 18.15, 19.05, 19.50, 20.40** Австралийские золотоискатели. **22.10, 23.00** Австралийские охотники на лобстеров. **1.25, 2.10, 2.55, 3.40, 4.25** Деревенский дом. **5.10** Выживание в лесу.

### HISTORY

**6.00, 6.25, 5.25** Невероятные изобретения. **6.50, 7.40, 8.25, 12.50, 13.35, 14.25, 15.10, 16.00, 16.45, 17.35, 1.25, 2.15, 3.00, 3.50, 4.35** Музейные тайны. **9.15** Коварная Земля. **10.05, 11.00, 11.55** Удивительное семейство псовых. **18.30** Viasat History представляет: этот день в истории. **19.15** Вторая мировая война в цифрах. **20.05** Древние суперстроения. **21.00** Монархи: забытые письма. **21.55, 22.40** Карты убийства. **23.30, 0.25** Тридцатилетняя война – Железный век.

### NATURE

**6.10, 6.40** Уличный ветеринар. **7.05** Мир природы – крылатые охотники на обезьян. **8.00, 8.50, 9.40** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **10.35, 11.25, 12.20, 13.15, 14.05** Бескрайняя Африка. **15.00, 18.40** Дикая Канада II. **16.05** Эпический Йеллоустоун. **16.55** Великая американская оттепель. **17.50** Природа Америки: времена года. **19.45** Дикая Латинская Америка. **20.40** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **21.30, 22.25, 23.15** Выживание в дикой природе. **0.05** Невероятные встречи с животными. **0.55** Хищные питомцы. **1.40, 4.05, 4.50** Мутации погоды. **2.30** Анатомия крупнейших животных. **3.20** Ветеринар из Йоркшира. **5.40** Путешествие по паркам.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.20** Суперкар со свалки. **7.10, 2.00, 2.45** Авто-SOS. **8.05, 8.55** Экстремальный экспресс. **9.45, 10.35** Затерянные города с Альбертом Лином. **11.25, 11.55, 12.20, 12.45** Сделать за один день. **13.10, 14.10** Деревянная кожа. **15.05** Следующее мегаземлетрясение. **16.40, 17.30** Земля под рентгеном. **18.25** Суперсооружения. **19.15** Суперсооружения: Грандиозный транспорт. **20.05** Самые лучшие суперкары. **21.00** Инженерные идеи. **21.55** Зона строительства. **22.20, 23.15** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **0.05, 0.50** Космос: возможные миры. **1.35, 5.10** Инстинкт выживания. **3.30, 4.20** Секретные материалы древности. **5.35** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.05, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.35, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.50, 14.50, 23.00, 3.10** Мир рыболова. **7.25, 15.35, 23.30** Вкусные рецепты рыболова. **7.55, 11.50, 0.00, 4.05** Андрей Старков и его команда. **8.25, 12.20, 16.35, 20.30, 4.35** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **8.55** Безграничная рыбалка. **9.25, 13.20, 17.35, 21.35** Донка против фидера. **11.20, 19.30, 3.40** Вкусные рецепты охотника. **12.50, 17.05, 1.00, 5.05** Рыбалка без границ. **15.15, 2.55** Дед Мазай и зайцы. **16.05, 20.00** Рыболовная Россия. **19.00** Рыболовы. **21.00** На рыбалку с охотой. **0.30** Рыбалка на малых реках Удмуртии. **1.35, 5.35** Россия заповедная.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.20, 18.10, 22.05, 2.10** Домашняя экспертиза. **6.30, 10.40, 22.35** Дачных дел мастер. **7.00, 11.10, 15.20, 19.10, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.40, 15.50, 19.45, 23.40, 3.55** Как поживаете? **8.00, 12.10, 16.20, 20.15, 0.10, 4.25** Лучки-пучки. **8.20, 12.30, 16.40, 20.30, 0.25, 4.40** Про грибы. **8.35, 12.45, 16.55, 20.45, 0.40, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.00, 17.10, 21.05, 1.00, 5.05** У мангала. **9.20, 3.40** Траовед. **9.40, 13.30, 17.40, 21.35, 1.30, 5.35** ТОП-10. **14.00** Варенье. **14.50, 18.40, 2.40** Деревянная Россия. **1.55** Закуски.

# Як у Куранцы ў 1930 годзе адкрылі помнік паўстанцам Каліноўскага

ВІЛЕЙКА

**Артыкул пра адкрыццё ў Куранцы помніка паўстанцым Кастуся Каліноўскага і разважанні з гэтай нагоды былі надрукаваныя ў газеце «Кур'ер віленскі», №225, 30 верасня. Знайшоў тэкст краязнаўца і наш чытач Кастусь Шыталь.**

«1863 год. Дата для нас памятная – год барацьбы народа з рускім засіллем за свабоду і права існавання. Этапы гэтай барацьбы вядомыя густа раскіданымі магіламі герояў, загінулых пры абароне Радзімы з лозунгам «За нашу і вашу свабоду». Магілы, у якіх ляжаць косткі нашых бацькоў і дзядоў, можна знайсці не толькі ў розных кутках нашай краіны; часта былі ў крыві змагароў за свабоду і далёкая тайга Сібіры, і казематы турмаў. Імёны некаторых ўвайшлі ў гісторыю, і іх дзеі ўмацоўваюць веру ў тое, што паляк ніколі не прымірыцца з няволяй, хутчэй аддасць жыццё ў абароне незалежнасці Радзімы: «хто пераможа – той будзе свабодным, хто загіне – той ужо вольны». Але колькі безыменных герояў, якія загінулі ў бітве за свабоду, спяць вечным сном на магілах, парослых травой; толькі цяпер у незалежнай Польшчы аб гэтых магілах пачалі клапаціцца, а крыжы і помнікі – даніна павагі невядомым героям.

Гэтыя думкі навеяныя святочнай цырымоніяй з нагоды асвячэння ў мястэчку Куранец помніка 18 невядомым героям, якія загінулі ў 1863 годзе. Яны загінулі смерцю храбрых у бітве пад Іжай, змагаючыся ў атрадзе **Вінцэнта Козела-Паклеўскага**; іх целы былі дастаўленыя ў Куранец і пахаваныя ў агульнай магіле каля мясцовага касцёла.

Перш чым апісаць знешні выгляд і характар помніка – тварэнне мастака-скульптара **Пятра Германовіча** – і цырымонію, звязаную з асвячэннем, хацелася б сцісла праілюстраваць дзейнасць у Куранцы тых людзей, якія працуюць там, на месцы, у прымежжы, наколькі гэта магчыма, для ўмацавання ідэі польскай дзяржаўнасці. Гэтыя людзі, якіх нашы «найлюбезнейшие» з усходу спрабуюць усяляк узбаламуціць і варожа настроіць, заслугоўваюць удзячнасці грамадства за іх ахвярную працу на карысць чалавецтва.

Эфектыўна процідзейнічаць падрыўным акцыям можна не толькі шляхам пакарання вінаватых, але і пры дапамозе культурна-асветніцкай працы, накіраванай на ўмацаванне пачуцця нацыянальнай прыналежнасці сярод мноства людзей, уведзеных у зман камуністычнай прапагандай. На тэрыторыі мястэчка Куранец гэту місію выконвае Дом Касы Стэўчыка – грамадская арганізацыя, якая ўключае ў сябе малочную вытворчасць, бібліятэку з 400 тамамі польскай мастацкай літаратуры, тэатральную залу.

Дом налічвае каля тысячы сяброў з гадавым абаротам каля мільёна злотых. Сябры могуць скарыстацца кароткатэрміновымі пазыкамі да 1200 злотых, а ўласны фонд Дома складае сорак тысяч злотых. Чытанні, аматарскія прадстаўленні, гульні прыцягваюць натоўп маладых людзей і людзей ва ўзросце, шчыльна запаўняецца зала больш чым на дзвесце чалавек.

> **У праекце – стварэнне пераплётнай майстэрні, майстэрні дываноў і чытальнай залы. Рэалізацыя дадзеных намераў забяспечыць далейшае развіццё і росквіт гэтай важнай культурнай установы.**

І цяпер міжволі ўзнікае пытанне: хто быў ініцыятарам гэтых пачынанняў, якія маюць такое важнае значэнне ў далейшай працы ў памежжы? Гэты чалавек – пісар гміны пан **Антоні Бялевіч**, чалавек ціхі і сціплы, не імкнецца да публічнасці. Ён першым, з дапамогай іншых мясцовых жыхароў, пасеяў зярнятка, якое за кароткі час дало ўраджай. Да ліку гэтых іншых ставіцца, перш за ўсё, паны **Мікалай Данілаў**, **Расінянін** і **Юльян Фарэмны**. Пан Данілаў не шкадуе сіл для арганізацыі аматарскіх уяўленняў, тэма якіх – намаганні народа ў барацьбе за незалежнасць. Ён арганізуе хоры, якія адносяцца да тэатральнай секцыі.

> **Далейшым працягам прапагандысцка-культурнай акцыі з'яўляецца рэалізацыя праекта будаўніцтва помніка паўстанцам 1863 года.**

І ў гэтым выпадку ініцыятарамі сталі згаданы вышэй пан Антоні Бялевіч і настаўніца мясцовай пачатковай школы пані **Аліна Сырэвіч**. Пад пратэктаратам пана ваяводы Віленскага **Рачкевіча** камітэт будаўніцтва помніка сфарміраваўся ў наступным складзе: старшыня – пан **Людвік Кракаў**, віцэ-прэзідэнты – Антоні Бялевіч і Аліна Сырэвіч, казначэй – **Уладзіслаў Хайковіч**, сакратар – Юльян Фарэмны і члены: **Караль Фарэмны** і **Вацлаў Клячкоўскі**. Камітэт пачаў збор ахвяраванняў на тэрыторыі гміны. Усё насельніцтва, незалежна ад нацыянальнасці, ахвотна ахвяравала на будаўніцтва помніка. Будаўніцтва ў кароткія тэрміны звязана з тым, што пан Пётр Германовіч адмовіўся ад узнагароды за сваю працу, у дадзеным выпадку праявіўшы энтузіязм. Памочнікамі пана Германовіча ў будаўніцтве былі вучні Школы мастацкіх промыслаў **Аркадзь Куцько**, **Канстанцін Чвір**, **Віктар Пятроўскі** і **Канстанцін Маркавіч**.

> **Помнік, усталяваны на полацкім тракце, міжволі прыцягвае ўвагу кожнага мінака. Ён уражвае сваёй манументальнасцю і прастатой; адрозніваецца ад зацёртага шаблону многіх помнікаў падобнага роду.**

Вышыня манумента – дзевяць метраў, глыбіня падмурка – два метры. Усё гэта гарманічна вытрымана ў стылі барока. Само асвячэнне помніка, нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е, мела шмат узвышаных момантаў.



Nr. 220 (1862) KURJER WILEŃSKI

WIEŚCI I OBRAZKI z KRAJU

22 września w Kurzeńcu.

Akcja przedwyborcza w Wilnie i Wileńszczyźnie.

Ile Wilno liczy wyborców do sejmu i senatu.

Pocztowe przysposobienie wyborcze.

II-gie Targi Północne.

Przed otwarciem Targów Drobiowych i hodowlanych.

Posiedzenie sądu konkursowego przy II-ich Targach Północnych.

Bilans corsa kwiatowego.

Cudzoziemcy na Targach Północnych.

Utarczka patrolu K. O. P. z bandą przemytniczą.

OSZMIANA

LIDA



Старонка газеты з артыкулам пра Куранец з суполкі «ТАП імя Аляксея Лужынскага».

Ксёндз прэфект **Янкоўскі** ў сваім выступленні падкрэсліў важнасць гэтага помніка ў памежжы як знака барацьбы з гвалтам і абароны веры і рэлігіі. Падчас цырымоніі хор дзяцей з пачатковай школы выканаў патрыятычныя песні, аркестр КАП – дзяржаўны гімн. Цырымонія працягнулася ў зале Дома Касы Стэўчыка, куды запрошаныя камітэтам госці на чале з панам куратарам **Пагажэльскім**, панам старастам **Нейгебаўэрам** і прадстаўнікамі ваенных уладаў адправіліся на сняданак. Выступленні пана старасты Нейгебаўэра, пана інспектара **Труглеўскага** і пана дырэктара пачатковай школы Караля Фарэмнага паднялі настрой прысутных. Іграў ваенны аркестр КАП, хор Беларускай праваслаўнай царквы выканаў шэраг польскіх песень пад кіраўніцтвам дыякана **Аляксандра Дзяругі**. Былі зачытаныя дэпешы пана ваяводы **Рачкевіча** і віцэ-ваяводы **Кірцікліса**, якія не змаглі прыехаць у Куранец па прычыне службовых спраў, але думкамі і сэрцамі былі тут.

> **Пасля сняданку пан куратар Пагажэльскі правёў сход Педагагічнай Рады мясцовай пачатковай школы. Гэты факт надоўга застанецца ў памяці мясцовых настаўнікаў.**

Вечарам адбылося ўрачыстае аматарскае прадстаўленне. Паказалі драматычны твор, прысвечаны памяці загінулых, і «Цуд над Віслай», зрэжсіраваны панам **Данілавым**.

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК.**

---

● КАЛЯНДАР

**14 ЖНІЎНЯ**

**1385.** У замку Крэва заключаная Крэўская унія паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім.

**15 ЖНІЎНЯ**

**1769.** Нарадзіўся **Напалеон Банапарт**, французскі імператар.

**1923.** У Вішневе на Валожыншчыне нарадзіўся **Шымон Перэс**, ізраільскі палітык і лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру.



**16 ЖНІЎНЯ**

**1874.** У Вілейцы нарадзіўся **Аляксандр Уласаў**, беларускі грамадскі дзеяч, рэдактар-выдавец газеты «Наша Ніва», сенатар у Другой Рэчы Паспалітай. Жыў ля Радашкавічаў. Рэпрэсіраваны ў 1939 годзе. Памер у 1941-м.

**1941.** У СССР апублікаваны загад, паводле якога чырвонаармейцы, што здаліся ў палон, абвяшчаліся здраднікамі.

**1945.** СССР падпісаў дагавор з Польшчай аб межах.

**17 ЖНІЎНЯ**

**1629.** Нарадзіўся кароль польскі і вялікі князь літоўскі **Ян Сабескі**. Памёр у 1696-м.



**18 ЖНІЎНЯ**

**1991.** Дамашні арышт **Міхаіла Гарбачова** ў Крыме.

**19 ЖНІЎНЯ**

**1925.** У Вільні пачалося выданне газеты «Жыццё Беларуса». Закрыта з-за ціску польскіх уладаў.

**1991.** Спроба дзяржаўнага перавароту ў СССР. Змоўшчыкі адхілілі ад улады Міхаіла Гарбачова і заявілі аб увядзенні надзвычайнага становішча.

**20 ЖНІЎНЯ**

**1937.** Польскімі ўладамі забароненая дзейнасць Таварыства беларускай мовы.

Падрыхтаваў **Мікола ГАЙДУК.**

# Дзённік назіральніка: пяць дзён




Бэйдж назіральніка на Новым ўчастку для галасавання №16 у Маладзечне.

**Пра гісторыю свайго назірання за выбарамі нам расказваюць з Новага ўчастка для галасавання №16 у Маладзечне.**

### 4 жніўня

Перад першым паходам на ўчастак я хвалявалася. Злавіла сябе на думцы, што адчуваю, як перад пачаткам нейкай вайны – бо старанна ўзбройвалася ведамі, нумарамі артыкулаў з Канстытуцыі і Выбарчага кодэкса, будавала стратэгіі, як паводзіць сябе ў канкрэтных сітуацыях.

На месцы аказалася, што мне пашчасціла з камісіяй – старшыня пазнаёмілася з назіральнікамі і запрасіла ўсіх на апламбіраванне ўрны. Акрамя трох назіральнікаў ад дзяржаўных арганізацый на ўчастку была яшчэ адна назіральніца, якая падавалася праз подпісы грамадзян.

Ужо ў першы дзень я адчула, як цудоўна назіраць у пары – вы падстрахоўвайце адзін аднаго, абмяркоўвайце рашэнні, без праблем можаце адлучыцца з участка, калі ёсць неабходнасць.

Цягам усяго дня мы назіралі не на тэрыторыі самога ўчастка, а пад яго дзвярыма. Яны былі пастаянна адчыненыя. Нам паставілі крэслы, і са сваіх месцаў мы маглі бачыць камісію і ўрну. Таму на свае вочы бачылі, як кожны выбаршчык атрымлівае бюлетэнь і апускае яго ў урну. Чытаючы навіны аб тым, як у іншых гарадах назіральнікаў выганялі і нават затрымлівалі пры дапамозе міліцыі, я магла толькі цешыцца са сваёй сітуацыі.

> **Да таго ж мы маглі без праблем фатаграфаваць урну і сам участак.**

Здзівіла, што першыя выбаршчыкі з'явіліся роўненька ў 10:00. У выніку ў першы дзень галасаваць прыйшло 60 чалавек. І менш паловы з іх – пенсіянеры.

За дзень на ўчастку з'явіліся прадстаўнікі МНС і выязнога гандлю – у той малюсенькі калідор, дзе мы сядзім на крэслах, прывязуць сталы пад гандаль. Як мы тады будзем назіраць – пакуль адкрытае пытанне. Як і пытанне аб тым, чаму больш за тры назіральнікі на выбарчым участку – гэта эпідэміялагічная небяспека, а гандлёвы пункт на ім жа – у парадку.

Прыходзіла прадстаўніца санстанцыі, разам са старшынёй яны пералічвалі маскі, пальчаткі і санітайзеры. Пытанне, чаму прадстаўнічка санстанцыі сама праводзіць праверку без маскі і пальчатак, так і круцілася на языку. Але гэта наўрад ці ўваходзіць у кампетэнцыі назіральніка, таму я так і не задала яго.

З цікавых фраз, пачутых сёння на ўчастку: «На рабоце сказалі – галасуй дасрочна, і нада падчыняцца, хочаш не хочаш» і «Раней людзі на выбары ішлі з усмешкай, а цяпер – як на памінкі. Бо жывём усё горш і горш».

Шторак на кабінках для галасавання няма – старшыня шчыра спрабавала выбіць з нейкіх інстанцый афіцыйную паперу, чаму гэта так, але пакуль беспаспяхова.

Агулам першы дзень развеяў першапачатковы настрой «як на вайне». І колькасць налічаных намі выбаршчыкаў супала з лічбай, якую мы пабачылі ў пратаколе дня.

### 5 жніўня

Другі дзень зноў пачаўся з ахвотных прагаласаваць яшчэ перад адкрыццём участка. Большасць людзей прыйшла перад перапынкам на абед. Па размовах, форме ці тым, як выбаршчыкі віталіся з камісіяй, можна было зразумець, што многія з іх працуюць у бюджэтнай сферы.

> **Быў і першы выбаршчык, які галасаваў упершыню ў жыцці – яму пад дружныя апладысменты ўручылі падкову на шчасце. І яшчэ сёння галасаваў першы чалавек з белай стужкай на руцэ.**

Пасля абеду ў мяне атрымалася патрапіць на ўчастак і назіраць ужо адтуль – адна з запланаваных назіральніц не прыйшла, і я заняла яе месца. Вельмі ўсцешылася гэтаму і злавіла сябе на думцы: гэта ж у якім стане павінны быць законапарадак, каб прытрымліванне элементарных правоў чалавека выклікала адчуванне свята.

### 6 жніўня

Сёння падлік яўкі зноў супаў з лічбамі ў пратаколе. Заўважыла, што час на ўчастку ляціць хутчэй, чым у першыя дні. Цяжка столькі часу праводзіць у масцы ў памяшканні. Вельмі не хапае актыўных рухаў – хочацца прайсціся, прабегчыся, але абмяжоўваюся пацягушкамі і таптаннем на месцы.

> **Добра, што побач ёсць напарніца, якую можна на нейкі час пакінуць адну, каб самой хоць на пару хвілін выйсці на вуліцу.**

Балюча бачыць сярод датэрміновых выбаршчыкаў знаёмыя твары. Асабліва ў тым выпадку, калі ў прыватнай размове чалавек табе скардзіўся на жыццё і прагнуў перамен, а цяпер прыходзіць на датэрміновае, бо «так сказалі на працы».

> **Калі ты дапускаеш, каб за цябе вырашалі, калі і што ты павінны рабіць у такіх элементарных рэчах, то як можна пасля наракаць на жыццё? Як можна скардзіцца на абставіны, калі ты нават не спрабаваў іх змяніць, не спрабаваў узяць у свае рукі адказнасць за сваё ж жыццё?**

### 7 жніўня

Пасля сённяшняга дня на душы настолькі пагана, што, прыйшоўшы дамоў, я расплакалася. Ніколі б не падумала, што праца назіральніка больш складаная не фізічна, а маральна. Калі ты бачыш яўную хлусню, глядзіш у вочы людзям, а яны хаваюць позірк – гэта балюча.

За гэтыя дні я бачыла сярод выбаршчыкаў знаёмага міліцыянера – я

# у калідоры, адзін дзень на ганку

памятаю, што неяк ён пакасіў траву пад маім акном, калі я яго папрасіла. І ведаю, што пасля ён затрымліваў людзей, якія проста сталі на вуліцы.

**Я бачыла доктарку, якая прыватна скардзілася, што падчас пандэміі іх бальніцу кінулі самой разбірацца з недахопам медыкаментаў і сродкаў аховы. Яна прыйшла галасаваць у адзін з першых дзён.**

Наведала сёння і родную школу. «Я вельмі веру, што пасля выбараў мне не сорамна будзе казаць, што я скончыла гэту школу і вучылася ў вас», – сказала я старшыні камісіі, калі злавіла яе ў калідоры.

**Агулам у школе да майго з'яўлення паставіліся з асцярогай, асабліва дзяжурная, якая досыць груба выправадзіла мяне з тэрыторыі.**

На маім участку было непаразуменне з падлікам яўкі за дзень, але, на шчасце, яно хутка выправілася. За гэты час шмат розных думак праляцела ў галаве. Мне балюча лавіць сябе на думцы, што я чакаю ад дарослых людзей – членаў камісіі – нейкага падвоху і ўзважваю кожнае іх слова. Я не магу ім давяраць на 100%, нават калі перада мной цалкам сумленныя людзі, бо за многія гады перад нашымі вачыма разгарнулася безліч гісторый аб хлусні і фальсіфікацыі ў камісіях. І мяне бамбіць ад адначасовага жадання давяраць і ўнутранага голасу перасцярогі.

**Сёння ж у Маладзечне затрымалі першага назіральніка. Шмат негатыву для аднаго дня.**

### 8 жніўня

На ўчастку вывесілі выніковыя лічбы за ўсе пяць дзён датэрміновага галасавання. Яны супалі з нашымі падлікамі, што вельмі цешыць. Датэрмінова на нашым участку прагаласавала 16% выбаршчыкаў.

Таксама наладзілі сувязь з дзяўчатамі, якія назіраюць ад праўладных арганізацый – аказалася, што яны таксама лічаць яўку і мы цягам дня звяралі лічбы адна з адной.

На ўчастак прывезлі мэблю для гандлёвага пункта – верагодна, яна займе ўвесь калідор, у якім мы назіралі цягам тыдня.

Цяпер да нас далучыліся яшчэ два незалежныя назіральнікі, і заўтра мы паспрабуем падзяліць працу такім чынам, каб максімальна якасна выканаць сваю працу. Мы не спадзяёмся, што нас пусцяць на падлік галасоў. Але на ўчастку мы ў любым выпадку застанёмся да аб'яўлення вынікаў.

### Асноўны дзень выбараў. 9 жніўня

Дзень пачаўся для нас рана. Участак адкрыўся а 8 раніцы, мы прысутнічалі на апламбіраванні ўрны.

У калідорчык, дзе назіралі цягам датэрміновага галасавання, прывезлі стол і вітрыны для гандлю, і нам месца не знайшлося. Мы размясціліся ля ганку на сваіх крэслах.

Для нашага самаадчування гэта добра – мы маглі сядзець на свежым паветры без масак, хаваючыся ў цяньку вялікай вярбы.

**Але для назірання гэта, вядома, поўны правал: мы не бачылі, як выдаюцца бюлетэні, не бачылі ўрны. Лічыць яўку таксама было складана – некаторыя людзі прыходзілі не галасаваць, а за кампанію, некаторыя памыляліся ўчасткам.**

Мы прымалі іх за галасуючых, бо не бачылі, што яны робяць унутры.

### Непрыемнае і дзіўнае

Нам шмат разоў паўтаралі, што лішні назіральнік у памяшканні для галасавання – эпідэміялагічная небяспека. Тым часам 9 жніўня ў памяшканні для галасавання выступалі цэлыя ансамблі. У калідорчыку працавалі супрацоўнікі гандлю і дзяжурныя. Відаць, усе гэтыя людзі мелі такі ўзровень стэрыльнасці, які недасягальны для незалежнага назіральніка.

Спробы стварыць адчуванне свята на ўчастку былі дзіўныя. Расійская папса, якая гучала з калонак. Дзяўчына ў касцюме клоўна, якая вітала дзетак. Ансамбль песні, які спяваў прыгожа, але ў пустэчу, бо ў час яго выступлення на ўчастку амаль не было людзей.

**Цэлы дзень побач з намі працавалі супрацоўнікі міліцыі. Але ў той момант, калі да мяне пачаў чапляцца мужчына нападпітку, стаў тыкаць пашпартам мне ў твар і задаваць пытанні, супрацоўніца міліцыі, што была ў некалькіх кроках, стаяла моўчкі.**

Чутка пра булкі ў буфеце за 16 капеек хутка пранеслася па наваколлі. Бабулі па некалькі разоў прыходзілі на ўчастак, бралі іх цэлымі пакетамі. У некаторых булкі наадварот выклікалі іранічную рэакцыю:

**«А што гэта зрабілася? Падзешавела мука рэзка? Што ж яны кожны дзень па 16 капеек не каштуюць?».**

### Прыемнае і натхняльнае

Мы з напарніцай па назіранні вельмі чакалі асноўнага дня выбараў, каб атрымаць маральную кампенсацыю за папярэднія пяць дзён. Каб адчуць, як шмат людзей ведае, чаго хоча, кіруецца ўласнымі жаданнямі і патрэбамі, а не загадамі зверху. І мы гэта атрымалі.

Дзякуй кожнаму, хто казаў словы падтрымкі, і кожнаму, хто нам усміхаўся. Дзякуй усім, хто прыносіў ваду і ежу – нашым сем'ям, незнаёмаму хлопцу Мацвею і дзяўчатам, імёны якіх я не спытала. Дзякуй жанчыне з суседняга дома, якая гатовая была прынесці нам каву і пячэнькі. Ваша падтрымка вельмі адчувалася і дадавала нам сіл!

Некаторыя выбаршчыкі ўчытваліся ў нашы бэйджы: «Незалежныя, так? Тады жыве Беларусь!», або «Вы нашы, вы харошыя!». Мы ж, каб заставацца сапраўды незалежнымі, нічога не казалі ў адказ.

### Назіральнік – не юрыст і не адвакат

Многія выбаршчыкі не разумеюць функцый і абавязкаў назіральніка.

Адны хацелі ўдакладніць у нас межы ўчасткаў, а другія запытвалі аб выніках назірання. Але ж недарма назіральнікаў назвалі менавіта назіральнікамі, а не «кансультантамі па выбарчым працэсе». Мы можам толькі назіраць, фіксаваць парушэнні і ўказваць на іх старшыні камісіі.

**Калі выбаршчык нечым незадаволены – адсутнасцю шторак або подпісамі членаў камісіі на яго бюлетэні, – яму не трэба пасярэдніцтва назіральніка. Ён мае поўнае права сам казаць аб гэтым старшыні камісіі.**

Да таго ж назіральнік увогуле не можа кантактаваць з выбаршчыкамі. Мы абмяжоўваліся фразамі «добры дзень» і «да пабачэння». Калі ж спробаў размаўляць стала надта шмат, давялося раздрукаваць таблічку з надпісам «выбачайце, але назіральнік не можа размаўляць з выбаршчыкамі» і паказваць яе людзям.

### Камунікацыя праз свечкі і сэрцайкі

Ідэя з белай стужкай прыжылася – замест стужкі часам былі бранзалеты, бінты ці ніткі. Некаторыя забываліся пра стужку і выбіралі іншыя спосабы паказаць нам, што будуць галасаваць за перамены – складвалі далоні ў форме сэрца, паказвалі знак перамогі ці проста казалі, што «мы забыліся белыя бранзалеты». Адна жанчына перад уваходам на ўчастак дастала белыя царкоўныя свечкі і паказала іх нам са словамі «белага бранзалета няма, дык хоць белыя свечкі».

Часам людзі прыходзілі галасаваць парамі ці групамі, дзе толькі адзін чалавек меў белую стужку.

**І хоць напрошвалася выснова, што яго блізкія маюць падобныя погляды, мы пазначалі аднаго чалавека.**

Па маіх падліках, людзей, якія відавочна паказалі сваю пазіцыю, было каля 300.

### Вынікаў галасавання няма дагэтуль

Адчуванне ўнутранага маленькага свята скончылася роўна а 20:00, калі выбарчы ўчастак моўчкі закрылі знутры, нават не сказаўшы дыпламатычнага «ў сувязі з эпідабстаноўкай не можам запрасіць вас у будынак».

Паколькі намесніца старшыні казала аб тым, што назіраць за падлікам праз вокны нам ніхто не забароніць, мы пайшлі пад вокны. Але там сустрэлі невядомага мужчыну, які сказаў, што ён вартаўнік і зваць яго «конь у паліто». Пасля нашых спроб падысці да акна ён пачаў званіць у міліцыю.

Міліцыянер выйшаў да нас з участка і папрасіў «не правакаваць». Тым часам за агароджай участка пачалі збірацца выбаршчыкі. На тэрыторыю іх не пускаў іншы вартаўнік, спасылаючыся на рэжымнасць аб'екта.

**Каля 22:30 да назіральнікаў і выбаршчыкаў выйшла намесніца старшыні камісіі і паведаміла, што пратакол не будзе вывешаны і яна «ўпаўнаважаная паведаміць, што ўвесь матэрыял быў апячатаны і падлік будзе адбывацца ў выканкаме».**

Вядома, гэта парушэнне Выбарчага кодэкса, людзі цудоўна гэта ведалі і сустрэлі словы намесніцы воклічамі «Ганьба!» і разышліся.

Мы ж ужо на наступны дзень скіравалі скаргі ў Тэрытарыяльную выбарчую камісію. Пры гэтым яе старшыня **Ірына Нядвецкая** сцвярджала, што пратакол не мог быць не вывешаны і мы «проста не паспелі з ім азнаёміцца».

**Калі дарослыя людзі спрабуюць перакласці адказнасць адно на аднаго, а з цябе зрабіць дурня – гэта і абурае, і здзіўляе адначасова.**

Яшчэ праз дзень мы падалі скаргу ў Маладзечанскую пракуратуру.

На дзень напісання тэксту (12 жніўня) амаль тры тысячы выбаршчыкаў з нашага ўчастка дагэтуль не ведаюць, як палічылі іх галасы.

### Прыемны бонус назірання

Назіранне дало і нечаканы эфект – да мяне на вуліцах пачалі падыходзіць людзі, якія галасавалі на маім участку. Адзін хлопец падышоў і папрасіў мяне абняць, бо вельмі ўдзячны за працу назіральніка. Сямейная пара спыніла на вуліцы і пачала дзякаваць і распытваць, чым скончылася назіранне.

**Неверагодна прыемна адчуваць, што людзі цэняць тваю працу. І я ўдзячная ім за неабыякавасць і заангажаванасць.**

Хоць перыяд назірання быў цяжкі і маральна, і фізічна, я вельмі рада таму, што пазнаёмілася з цудоўнымі людзьмі. Асабліва гэта тычыцца маёй напарніцы па назіранні – яна шмат чаму навучыла і паказала прыклад сваімі паводзінамі.

**Новыя юрыдычныя веды – таксама вялікі плюс.**

Ці пайду я назіральнікам на наступных выбарах? Так, таму што веру, што яны будуць адкрытымі і галоснымі, бо высілкі тысячы назіральнікаў і выбаршчыкаў па ўсёй краіне не могуць прайсці ўпустую.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**



Маладзечанка Вольга Масевіч за мяжой.

Фота з асабістага архіва героіні публікацыі.

# «Аж дух захоплівае, калі цягнік спыняецца ў Маладзечне»

## Маладзечанка расказала, як жыве і выкладае нямецкую мову ў Італіі

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанка Вольга Масевіч некалькі год жыве ў Рыме. Выкладае па інтэрнэту нямецкую і італьянскую мовы. А пачыналася яе гісторыя ў Маладзечне, дзе Воля нарадзілася, вучылася ў пятай школе, дзе зацікавілася нямецкай мовай.**

### З дзяцінства ведала: буду настаўніцай нямецкай мовы

– Маладзечна заўжды быў і ёсць мілы майму сэрцу горад. Не толькі таму, што тут нарадзілася, але таму, што ёсць светлыя ўспаміны з дзяцінства пра фестываль, пра сяброў, пра людзей, пра каханне. Горад цудоўны. Шмат месцаў, якія вабяць вока. Гэта і парк, і плошчы, і вулачкі, – прыгадвае Воля родны горад.

Пасля школы дзяўчына паступіла на факультэт нямецкай мовы лінгвістычнага ўніверсітэта. Кажа, што з дзіцячага садка ведала: будзе настаўніцай нямецкай мовы.

– Вельмі падабалася гэта мова, хоць для вывучэння дастаткова цяжкая, – дзеліцца суразмоўца. Вучоба ва ўніверсітэце праляцела хутка. Можа таму, што мне падабалася вучыцца.

**Мне заўжды спрыяў лёс з нямецкай мовай. Родная пятая школа супрацоўнічае ўжо больш за 20 гадоў з гімназіяй у горадзе Гётынген, у Германіі. Вучні могуць паехаць на год вучобы і дасканала вывучаць мову ў гімназіі. Я таксама была стыпендыяткай гэтай гімназіі.**

Пасля заканчэння лінгвістычнага ўніверсітэта Вольга працавала ў пятай школе два гады. Кажа, нават не было сумненняў, куды ехаць працаваць: толькі Маладзечна, толькі пятая школа.

Гады працы ў школе Вольга прыгадвае з усмешкай. Не адмаўляе: было цяжка, але займалася справай, пра якую заўжды марыла. Вучні слухаліся. Настаўніца спадзяецца, што ёй удалося адкрыць свет нямецкай мовы для вучняў. Кажа, што некаторыя з іх пасля школы абралі сваёй спецыяльнасцю нямецкую мову. Настаўніца ўпэўненая, што ў гэтым ёсць яе ўплыў.

### Практыкавала іспанскую мову і не думала пра замужжа

– На факультэце можна было вывучаць больш за дзве мовы. Я заўжды была здольная да філалагічных навук, таму вывучыла яшчэ англійскую і італьянскую, – прыгадвае Вольга студэнцкія гады.

З будучым мужам, **Алясандра**, жыхаром Рыма, Вольга пазнаёмілася ў 18 год, калі адпачывала ў Гродне. Доўгі час маладыя людзі перапісваліся, сябравалі.

– Для мяне была магчымасць практыкаваць італьянскую мову. Пра замужжа нават і не думала. Наша сяброўства цягнулася больш за пяць год. І вiдаць, перарасло ў каханне, – распавядае суразмоўца.

У 2015 маладыя заручыліся ў Рыме. Вольга засталася на сваім прозвішчы, бо ў Італіі жанчына не бярэ прозвішча мужа пасля шлюбу.

**Сёння сям'я выхоўвае сына і дачку. Калі сын пойдзе ў дзіцячы садок, Вольга будзе ўдзельнічаць у конкурсе, каб атрымаць месца ў дзяржаўнай школе.**

Пакуль яе дыпломы – на пацвярджэнні ў Міністэрстве ведаў.

### Як паўплываў каронавірус на жыццё ў Італіі

– Рым – горад прыгожы, музей пад адкрытым небам. Куды ні глянь – паўстаюць гістарычныя муры, фантаны, катэдры. Еўрапейскія вузенькія вулачкі, шмат кветак, інтэрнацыянальны кантынгент, – расказвае суразмоўца.

**Па яе назіраннях, менталітэт італьянцаў асабліва не адрозніваецца ад беларускага. Італьянцы – добразычлівыя гасцінныя.**

Як расказала Вольга, цяпер у Італіі вялікі эканамічны крызіс. Моладзь сядзіць без працы, няма дзяржаўнай падтрымкі. Многія едуць працаваць у Англію, Германію, Аўстрыю.

Па словах Вольгі, на жыццё мясцовых вельмі паўплывала сёлетняя пандэмія. Амаль два месяцы людзі не выходзілі з кватэр. Не працавалі прадпрыемствы, толькі – крамы і аптэкі.

**Але людзі паслухмяна выконвалі прадпісанні медыкаў. І на сёння вірус у Італіі не перамаглі: шмат інфіцыраваных, цяжкахворых.**

### Жыццё ў Італіі дарагое

У Італі вельмі дарагія прадукты. Напрыклад, літр малака каштуе паўтара еўра, а то і даражэй. Каб набыць самае неабходнае, трэба не менш за сто еўра. Калі не купляць адзенне і касметыку, на сям'ю з чатырох чалавек трэба не менш за 600 еўра на месяц.

Шмат італьянцаў жывуць у крэдыт. Гэта звычайнае справа ў Еўропе. Крэдыт бяруць на ўсё. На машыну, на жыллё, на мэблю. Па словах Вольгі, больш шанцуе таму, хто атрымлівае спадчыну. Многія так і жывуць, за кошт спадчыны, і не працуюць.

– Напрыклад, у Рыме «камуналка» ад 180 еўра да 800 еўра на месяц. Наняць кватэру – ад сямісот да дзвюх тысяч еўра на месяц. Хто мае больш, чым адну кватэру, жывуць за грошы ад здачы адной з іх, – расказвае Вольга.

**З-за пандэміі Вольга сёлета не змагла трапіць на радзіму. І ад гэтага вельмі крыўдна:**

– Калі прыязджаю ў родны горад – гэта заўсёды свята. Аж дух захоплівае, калі цягнік спыняецца ў Маладзечне. Тым, хто жыве блізка ад бацькоў, гэтага не зразумець, – лічыць Вольга.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




Выпускніца маладзечанскай гімназіі №7 Вольга Трус з бацькамі Алай Уладзіміраўнай і Алегам Віктаравічам.

# «Было відавочна, што паступлю»

**Выпускніца ў Маладзечне атрымала 100 балаў на цэнтралізаваным тэсціраванні па рускай мове.**

**Вольга Трус** скончыла сёлета маладзечанскую гімназію №7. Дзяўчына расказала, як ёй удалося набраць найвышэйшы бал і якія яна мае бліжэйшыя планы.

Дзяўчына здавала тэсціраванне па рускай мове, матэматыцы і фізіцы. Па матэматыцы паказала таксама выдатны вынік – 98 балаў. Агулам у выпускніцы 368 балаў.

Пра выдатны вынік за тэст дзяўчына даведалася, калі была дома. Яна адпачывала і глядзела серыял, раптам на тэлефон прыйшло смс-паведамленне. Дзяўчына ўзрадавалася выніку, пачала дзяліцца з сябрамі. Пасля расказала і бацькам. Яны пахвалілі, але высокі вынік дачкі быў чаканы.

Вольга рыхтавалася да іспытаў увесь адзінаццаты клас. Наведвала факультатывы настаўнікаў **Алены Крук** і **Аляксандра Раінчыкава**.

Яна скончыла школу з залатым медалём. Удзельнічала ў алімпіядах па матэматыцы, яе вызвалілі ад экзаменаў па матэматыцы па выніках дзявятага і адзінаццатага класаў.

Вольга адзначыла, што цягам года хапала часу і на тое, каб рыхтавацца да ЦТ, і каб адпачываць. Вельмі паспрыяла тое, што ў чацвертай чвэрці не трэба было наведваць школу. Так школьнікі атрымалі больш часу, каб падрыхтавацца да экзаменаў.

Дзяўчына ўжо паступіла ў вышэйшую навучальную ўстанову – на факультэт матэматыкі і інфарматыкі БДУ. Вызначылася, куды паступаць, пасля новага года. Яна ведала, што яе кірунак будзе звязаны з інфарматыкай, выбірала ўніверсітэт, у які падасць дакументы. Як кажа Вольга, было відавочна, што яна са сваімі баламі паступае.

2 жніўня Вольга Трус ужо падпісала дамову на навучанне.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Ці заўсёды харчаванне здаровае

У апошні час сярод насельніцтва шырокае распаўсюджванне атрымлівае прадукцыя, якая вырабляецца пад брэндам «экалагічна чыстае», або «здаровае харчаванне». А ці сапраўды заўсёды яно з'яўляецца такім?

Інспекцыяй Дзяржстандарту (аддзел дзяржнагляду Маладзечна) у ходзе правядзення кантрольна-нагляднага мерапрыемства на адным з гандлёвых прадпрыемстваў быў адабраны ўзор чайнага напою расійскага вытворцы.

Інфармацыя на ўпакоўцы красамоўна рэкамендуе пакупніку набыць гэты дзіўны напой, які напаўняе энергіяй ад аднаго толькі глытка, які ўмацоўвае імунітэт, рэгулюе працу сардэчна-сасудзістай сістэмы і падаўжае маладосць. І гэта толькі частка чароўнага дзеяння на арганізм чалавека гэтага «эліксіру».

Пасля даследавання ў акрэдытаванай выпрабавальнай лабараторыі стала вядома, што карысным гэты напой дакладна не назавеш.

Як паказалі даследаванні, у чайным напоі змяшчаецца цвіль у колькасці, якая перавышае значэнне нормы ў 22 разы.

Такім чынам, чай можа апынуцца не проста шкодным, але і небяспечным напоем. Так як цвіль, або, іншымі словамі, плесневыя грыбкі не маюць смаку і паху, яны зусім непрыкметныя ў напоях, з'яўляюцца моцнымі канцэрагенамі. Акрамя таго, грыбкі вельмі ўстойлівыя да фізічнага ўздзеяння, яны не знішчаюцца простым кіпячэннем.

Цвіль – гэта грыб, які ствараe неспрыяльнае асяроддзе і выклікае такія хваробы, як астма, пнеўманія, сінусіт, скурныя высыпанні, сухі кашаль, нястраўнасць, алергія розных відаў.

Па выніках праверкі інспекцыяй Дзяржстандарту вынесенае прадпісанне аб канфіскацыі з абароту небяспечнай прадукцыі.

**Паводле аддзела дзяржнагляду Маладзечна Інспекцыі Дзяржстандарту.**

## Нямытыя бахчавыя – крыніца кішачнай інфекцыі

У самым разгары сезон продажу бахчавых. Аднак разам з асалодай смакам і карысцю гэтыя дары прыроды нясуць і рэальную пагрозу інфіцыравання бактэрыямі і паразітамі ад ужывання нямытых пладоў.

На іх паверхні знаходзіцца мноства ўзбуджальнікаў інфекцыйных і паразітарных захворванняў, такіх як лямбліёз, аскарыдоз, токсакароз, энтэрабіёз, іерсініёз, энтэравірусная інфекцыя. Між тым прадаўцы працягваюць прапаноўваць пакупнікам продаж кавуноў і дынь, разрэзаных на часткі.

У мэтах мінімізацыі рызыкі заражэння кішачнымі інфекцыямі звяртаем вашу ўвагу на неабходнасць захавання элементарных санітарных правілаў:

- пры куплі бахчавых культур пазбягайце неўстаноўленых і неабсталяваных месцаў гандлю, з зямлі, асабліва размешчаных уздоўж аўтамабільных і чыгуначных магістраляў;
- ні ў якім разе не набывайце ўжо разрэзаныя і запакаваныя ў цэлафан бахчавыя, не разразайце кавун для пробы ў гандлёвым пункце;

**• захоўваць разрэзаны кавун трэба толькі ў халадзільніку, і нядоўга;**

- бахчавыя, ягады, гародніну, садавіну перад ужываннем старанна прамывайце пад праточнай вадой з выкарыстаннем бяспечных мыйных сродкаў;
- для піцця выкарыстоўвайце толькі кіпячоную або бутыляваную ваду;
- старанна мыйце рукі з мылам пасля наведвання туалета, перад падрыхтоўкай і прыёмам ежы як дома, так і ў сталовай, кафэ, рэстаране.

Выкананне элементарных правілаў гігіены дазволіць у поўнай меры і з карысцю для здароўя атрымліваць асалоду ад кавуноў і дынь без рызыкі апынуцца на бальнічным ложку.

**Падрыхтавала Ганна ГІЛЬ, доктар-эпідэміёлаг Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

# Маладзечанскіх хакеіста і байца змешаных адзінаборстваў затрымалі падчас пратэстаў

**Форвард маладзечанскага «Дынама» Ілля Літвінаў пацярпеў падчас пратэстаў у Маладзечне. Таксама затрымалі і легендарнага маладзечанскага байца змешаных адзінаборстваў Аляксея Кудзіна.**

Па інфармацыі крыніц «Прэсбола», гулец маладзечанскага «Дынама» быў збіты супрацоўнікамі праваахоўных органаў у Маладзечне. Як мяркуецца, Ілля вяртаўся з трэніроўкі і трапіў пад разгон пратэстаў.

«Прэсбол» паведамляе, што Літвінаў затрыманы. Застаецца невядомым, у які дзень адбылося затрыманне. Нагадаем, што пратэсты ў Маладзечне праходзілі 9 і 10 жніўня.



Кудзін падчас зачысткі плошчы ў Маладзечне 10 жніўня.

Фота Настассі УЛКІНАЙ.

10 жніўня таксама затрымалі і Аляксея Кудзіна. Аб гэтым паведаміў беларускі баксёр **Дзяніс Ганчаронак**, ён распавёў пра затрыманне маладзечанскага байца.

– Учора ў Маладзечне быў затрыманы легендарны баец ММА Аляксей Кудзін. Ён дзясяткі разоў падымаў сцяг нашай краіны на чэмпіянатах свету. Гэта годны спартсмен, які прадстаўляе Беларусь. Спадзяюся, што яго адпусцяць і не ўжывуць ніякіх пакаранняў. Прашу не прыцягваць да адказнасці Аляксея Кудзіна.

**Аддзел інфармацыі.**

## Андрэй Сцяпанаў будзе гуляць у Маладзечне

Форвард **Андрэй Сцяпанаў** стаў гульцом «Дынама-Маладзечна». Пагадненне з хакеістам падпісанае на адзін сезон.

Мінулы хакейны сезон Сцяпанаў пачынаў у КХЛ. Ён згуляў у 24 матчах, пасля чаго камандзіравалі ў мінскае «Юнацтва». Там хакеіст правёў 20 гульняў і стаў уладальнікам Кубка прэзідэнта.

**hockey.by.**

## У Рызе адклалі прэзентацыю талісмана ЧС-2021

У Рызе ў чацвер, 13 жніўня, павінна была адбыцца прэзентацыя талісмана чэмпіянату свету-2021, які ў наступным годзе сумесна прымуць Беларусь і Латвія. Аднак па тэхнічных прычынах мерапрыемства давялося адкласці на больш позні тэрмін.

Кіраўнік аддзела камунікацый аргкамітэта **Эдгарс Гарос** паведаміў, што перанос ніяк не звязаны з палітычнай сітуацыяй у Беларусі, а абумоўлены немагчымасцю прыбыцця талісмана ў Рыгу ў акрэслены тэрмін.

**Паводле pressball.by.**

## «Цмокі» не заявіліся ў Кубак ФІБА, але згуляюць у Еўралізе

Галоўны трэнер жаночых «Цмокаў» **Андрэй Ваўлеў** распавёў, што яго каманда не згуляе ў Кубку ФІБА.

– Пры нашых сціплых фінансавых і кадравых магчымасцях у Еўракубку нам было б вельмі складана на штосьці сур'ёзнае разлічваць.

**– Ну, хоць у Еўрапейскай лізе згуляеце?**

– Абавязкова. Характэрна, што кіраўніцтва лігі вырашыла на першым этапе падзяліць удзельнікаў па тэрытарыяльным прынцыпе. У адной групе знаходзяцца прыбалтыйскія і заходнееўрапейскія клубы, у другой – беларускія і расійскія. Згодна з рэгламентам, спачатку ў два кругі згуляюць тры айчынныя каманды – мы, «Гарызонт» і «Алімпія». Гэтак жа і расійскія – новасібірскае «Дынама», «Растоў-Дон» і «Ніка» (Сыктыўкар). Затым абодва трыа сыдуцца «сценка на сценку». А пасля Новага года – звычклы плэй-оф для васьмі наймацнейшых і «фінал чатырох». Натуральна, калі каранавірус не ўнясе карэктывы.

**by.tribuna.com.**

## Арына Сабаленка стартавала з перамогі ў Лексінгтоне

Першая ракетка Беларусі Арына Сабаленка (11-ы нумар рэйтынгу Сусветнай федэрацыі тэнісу) стартавала з перамогі на прадстаўнічым турніры ў амерыканскім Лексінгтоне

Прызавы фонд склаў 202 250 долараў.

У турніры ўдзельнічаюць беларускі **Вікторыя Азаранка** і **Вольга Гаварцова**.

**pressball.by.**

## Рыгор Родчанкаў: «Расія павінна быць цалкам адхіленая ад Токіа-2020»

Былы кіраўнік Маскоўскай антыдопінгавай лабараторыі **Рыгор Родчанкаў** заклікаў Міжнародны алімпійскі камітэт (МАК) і Сусветнае антыдопінгавае агенцтва (WADA) цалкам адхіліць Расію ад летняй Алімпіяды-2020 у Токіа.

– Расія павінна быць цалкам адхіленая ад Токіа-2020. Ніякіх выключэнняў і допуску асобных спартсменаў.

> Тыя ж людзі, якія падмянялі допінг-пробы ў Сочы-2014, займаліся падробкай базы дадзеных Маскоўскай лабараторыі.

Гэта была паслядоўная фальсіфікацыя, яны займаліся ёй дзень за днём. Гэта махлярства неверагодных маштабаў, – распавёў Родчанкаў.

**bbc.com.**

## Мінспорту выказалася пра пратэсты ў Беларусі

Міністэрства спорту і турызму Беларусі на сваім афіцыйным сайце выказалася на тэму пратэстаў Беларусі пасля прэзідэнцкіх выбараў.

У Беларусі ўжо трэці вечар запар – 9, 10 і 11 жніўня – працягваюцца сутыкненні беларусаў і сілавікоў.

> Па дадзеных МУС, затрыманыя ўжо больш за шэсць тысяч чалавек, больш за 200 знаходзяцца ў медыцынскіх установах з раненнямі рознай ступені цяжкасці.

Мінспорту кажа, што ў гэты час людзі маглі б назіраць за выступленнямі беларускіх спартсменаў на Алімпіядзе. Аднак яе перанеслі праз каранавірус.

– У нашай краіне прайшлі чарговыя прэзідэнцкія выбары – заўсёды вельмі складаны і адказны палітычны акт. Папярэднія вынікі ўжо вядомыя, яны абвешчаныя Цэнтральнай выбарчай камісіяй. Тое, што прагучала пасля заканчэння выбарчай кампаніі, прывяло да эскалацыі напружанасці ў грамадстве, узнікненню жорсткіх канфліктаў. Бездакязныя асобы вывелі людзей на вуліцы, каб біць, ламаць, паліць, крышыць. Мы рашуча асуджаем паводзіны і ўчынкі гэтых людзей.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Вязкая маса markedрознай кансістэнцыі, якая атрымліваецца пры змешванні мукі з вадкасцю.
3. Дом з мэбляванымі пакоямі для часовага пражывання прыезджых.
4. Цагляная або каменная сцяна вакол чаго-небудзь.
8. Слова, якое гучыць аднолькава з іншым словам, але адрозніваецца ад апошняга значэннем.
9. Сукупнасць звязаных паміж сабой дзеянняў, падзей, у якіх раскрываецца асноўны змест мастацкага твора і характары дзеючых асоб.
10. Унутраны бок кісці рукі.
11. Бясколерная, празрыстая саленаватая вадкасць, якая выдзяляецца асобымі залозамі вачэй пры раздражненні, болі або моцных перажываннях.
13. Эластычны матэрыял, які атрымліваецца шляхам вулканізацыі каўчуку.
15. Няволя, у якую трапляе чалавек, захоплены ворагам у час вайны.
17. Заўзятасць, гарачнасць, моцнае захапленне.
19. Арганізм чалавека або жывёлы ў яго знешніх, фізічных формах і праяўленнях.
20. Настойлівае ўздзеянне, прымус.
22. Горная парода, якая складаецца з асобных вельмі дробных часцінак кварцу або іншых цвёрдых мінералаў.
23. Рэлігійнае аб'яднанне духавенства і веруючых на аснове агульнасці веры, вучэнняў і абрадаў набажэнства.
24. Яда сярод дня.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Недарэчнасць, бязглуздзіца, лухта.
3. Будынак для стаянкі і рамонту машын.
5. Адзінка вымярэння часу, якая раўняецца 1/24 сутак.
6. Жыллё, зробленае птушкамі.
7. Белая пажыўная вадкасць, якая выдзяляецца груднымі залозамі.
9. Адсутнасць прыгнёту, абмежаванняў, гвалту.
12. Кожная з дачок у адносінах да іншых дзяцей гэтых жа бацькоў.
14. Карціна, ілюстрацыя.
15. Аўтарытэт, перавага, якім карыстаецца хто-небудзь, што-небудзь.
16. Адміністрацыйны орган для аховы грамадскага парадку і бяспекі.
18. Патаўшчэнне скуры ці пухір з вадкасцю на руках або на нагах ад працяглага трэння.
19. Металічны або драўляны стрыжань з вастрыём на канцы, прызначаны для змацавання.
21. Вертыкальная частка будынка, якая служыць для падтрымкі перакрыццяў і для падзелу памяшкання на часткі.
22. Тое, што адпавядае рэчаіснасці; ісціна.

## Адказы на крыжаванку з №32

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Мітынг. 3. Мята. 6. Сасіска. 7. Спарта. 9. Ячэйка. 10. Донар. 11. Букет. 12. Ягада. 18. Семестр. 19. Бант. 22. Клей. 24. Баланс. 25. Санкцыя.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Мэта. 3. Мускул. 4. Ідэал. 5. Яны. 7. Свіран. 8. Багач. 10. Двойка. 13. Дадатак. 14. Уругвай. 15. Аўторак. 16. Юрыст. 17. Далёка. 20. Давер. 21. Моц. 23. Сакратар. 24. Багна.

## ● ГАРАСКОП НА 14-20 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** Трэба быць вельмі сабраным, каб не патрапіць у непрыемную сітуацыю. Калі запланавалі дзелавую сустрэчу або перамовы, то не забудзьцеся пакет дакументаў. Важна ва ўсіх справах быць сумленнымі.



**ЦЯЛЕЦ.** Сто разоў пераправерце свае рахункі, каб потым не здзіўляцца – куды дзеліся вашы грошы? Гараскоп раіць накіраваць энергію ў тое рэчышча, якое можа прывесці да поспеху. Зрабіць гэта не складана, калі прачнуцца раней, чым звычайна.



**БЛІЗНЯТЫ.** Важныя перамовы не адкладайце, нават калі нешта не паспяваеце аформіць. Рэцэпт шчасця просты – будзьце сумленнымі. Правільны настрой дапаможа ўсё ўладзіць.



**РАК.** Вы на верным шляху, ні ў чым не сумнявайцеся. Каб умацаваць фінансавае становішча, прывядзіце ў парадак думкі і дакументы. Усё ўзаемазвязана, будзьце ўважлівыя нават да дробязяў.



**ЛЕЎ.** Сістэматызацыя спатрэбіцца ў сямейным жыцці, асабліва ў побыце. У неймаверны клубок можа заблытацца ўсё, калі пачаць займацца бескарыснымі справамі. Не аддавайце сілы і час на тое, што згубіць настрой і бюджэт.



**ДЗЕВА.** Не трэба на люстэрка награкаць, калі сам нічога не можаш зрабіць. Вы і так у апошні час пастаянна сыходзіце ад адказнасці і навізны. Паспрабуйце выканаць заданні, не парушаючы тэрміны.



**ШАЛІ.** Верагодна, што крызіс у фінансах так адбіваецца на настроі. Пашырайце свае межы, каб дамагчыся мэтаў. Уважліва сачыце за сваімі ўчынкамі, а потым крытыкуйце навакольных людзей.



**СКАРПІЁН.** Не трэба скардзіцца на лёс, і ён сёння не пакрыўдзіць. Асабліва ў грашовым сэнсе – чакайце прыбытак.



**СТРАЛЕЦ.** Гараскоп рэкамендуе своечасова казаць сабе «спыніся». Гэта будзе сігналам да таго, што вы перабралі ў крытыцы, ганарлівасці і несумленных дзеяннях. Дакучлівасць аднаго з калегаў будзе замінаць асноўнай працы.



**КАЗЯРОГ.** Трэба будзе займацца выхаваннем падрастаючага пакалення. І не важна, хто гэта – брат, пляменнік ці малады супрацоўнік. Вам усё роўна трэба будзе настаўляць яго на правільны шлях.



**ВАДАЛЕЙ.** Важна стрымліваць эмоцыі і захоўваць сумленне. Часам гэта тое, што важней за іншыя рэчы.



**РЫБЫ.** Самае галоўнае – адстойваць тое, у што верыце ўсім сэрцам. Не паддавайцеся страху, будзьце шчырымі з самім сабой.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | | | | | | 4 | | 1 |
| | 6 | 4 | | | 7 | 9 | | |
| | 1 | | 8 | | | | 2 | 3 |
| | 7 | | 4 | 8 | | | | 2 |
| | 2 | | | 6 | 5 | | | |
| | | | | 7 | | | 8 | 9 |
| 9 | | | | 5 | | | | 6 |
| | | 1 | | 3 | | | | 5 |
| | 3 | | | | 2 | | | 4 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by



## Смаргонца асудзілі за дробнае хуліганства пасля візіту на выбарчы ўчастак

СМАРГОНЬ

5 жніўня на выбарчы ўчастак №16 у Смаргоні прыйшоў **Аляксандр Паплаўскі**, каб азнаёміцца з пратаколам за 4 жніўня.

Паплаўскі хацеў сфатаграфаваць вынікі датэрміновага галасавання за 4 жніўня.

Падчас фатаграфавання ў Паплаўскага здарыўся канфлікт са старшынёй камісіі **Аленай Ацецкай**. Гэта трапіла на відэа, якое здымаў сам Паплаўскі. Пасля старшыня Ацецкая напісала заяву на Паплаўскага, які нібыта замінаў працы выбарчай камісіі. 7 жніўня Аляксандра Паплаўскага асудзілі за дробнае хуліганства (артыкул 17.1 КоАП).

Аляксандру далі сем сутак.

**Настасся УТКІНА.**

## Затрыманыя тры актывісты

МАЛАДЗЕЧНА

Прадстаўнік БХК **Эдуард Баланчук** паведаміў, што маладзечанская міліцыя затрымала траіх мясцовых актывістаў.

**Руслана Кісялёва** затрымалі 7 жніўня. У гэты дзень ён працаваў назіральнікам на выбарчым участку №11, які размяшчаецца ў сярэдняй школе №8.

Як Баланчуку паведаміў дзяжурны РАУС, Кісялёва затрымалі па частцы 2 артыкула 9.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях – «Наўмыснае нанясенне цялеснага пашкоджання і іншыя гвалтоўныя дзеянні або парушэнне ахоўнага прадпісання». Другая частка прадугледжвае пакаранне ў выглядзе штрафу да дзесяці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт. Праваабаронца лічыць, што суд над Кісялёвым адбудзецца ў панядзелак.

**Андрэй Багамолаў** цяпер адбывае суткі, якія яму прысудзілі пасля ланцуга салідарнасці 19 чэрвеня, яго павінны адпусціць 10 жніўня. **Андрэй Смаляк** выходзіць 12 жніўня.

– Як адбылося затрыманне Кісялёва, дзяжурны не ведае, – каментуе Баланчук. – Мне падаецца, што гэта правакацыя з боку ўлады. Таму што Руслан Кісялёў – адзін з ініцыятараў сходаў грамадзян у вызначаных для сустрэч выбаршчыкаў памяшканнях. Напэўна, камусьці не спадабалася такая вялікая колькасць актыўных людзей, якія адгукаюцца на гэтыя мерапрыемствы. Можна зрабіць выснову, што на час галасавання хочуць ізаляваць гэтага чалавека ад працэсаў, якія будуць адбывацца ў гэтыя дні. Тым больш, што тэлеграм-канал «Маладзечна для жыцця» мадэруе Кісялёў. Верагодна, яны думаюць, што такім чынам заблакуюць канал. Вельмі прыкра, што на працягу стольcausal гадоў улада не можа дамовіцца са сваімі грамадзянамі. А людзі, якія надзеленыя ахоўваць парадак і законныя інтарэсы грамадзян, хапаюць грамадзян і цягнуць у аддзел міліцыі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Беларусы Вашынгтона ля Белага дома правялі акцыю ў падтрымку Беларусі. Сярод іх – маладзечанцы

МАЛАДЗЕЧНА

12 жніўня беларусы, якія жывуць у Вашынгтоне, зладзілі ля Белага дома акцыю ў падтрымку праўдзівых выбараў у Беларусі. Сярод іх – маладзечанцы, выпускнікі школ №5 і №1.

Пра гэта нам расказаў былы настаўнік СШ №5 **Лявон Цімохін:**

– Гутарыў па скайпе з выпускніком пятай школы **Юрыем Лукашэвічам**, які жыве ў Вашынгтоне. Ён расказаў, што сёння выходзяць на акцыю, што ганарацца сваёй пятай школай, учынкам дырэктара **Яўгена Макарэвіча**, які не адступіўся ад праўды.

Мы звязаліся з Юрыем Лукашэвічам. Ён пацвердзіў інфармацыю. Дадаў, што разам з ім на акцыю пойдзе яго сябар дзяцінства, выпускнік Маладзечанскай сярэдняй школы №1.

Больш падрабязна пра акцыю мы абавязкова напішам пазней.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Якія бальніцы працуюць у штатным рэжыме

ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН
МЯДЗЕЛ
МАЛАДЗЕЧНА

Як паведамляе Міністэрства аховы здароўя, некаторыя бальніцы рэгёна ўжо працуюць у штатным рэжыме.

Цягам двух апошніх тыдняў штатна пачалі працаваць раённыя бальніцы ў Вілейцы, Валожыне, Мядзеле.

А ў Маладзечанскай ЦРБ пакуль яшчэ працягваюць лячыць хворых на каронавірус.

**Паводле Міндароўя.**

## Ролік ад Ільянскай школы імя Грымаця – у пераможцах нацыянальнага конкурсу

ВІЛЕЙКА

21 жніўня ў Мінску ўзнагародзяць пераможцаў рэспубліканскага конкурсу «Мы розныя – мы разам». На ўрачыстую цырымонію запрасілі прадстаўніц Ільянскай школы імя Грымаця – сёлетнюю выпускніцу **Серафіму Шэрую** і вучаніцу цяпер ужо пятага класа – **Станіславу Радаванавіч**.

Сацыяльны ролік, які дзяўчаты стварылі пад кіраўніцтвам педагога **Тамары Генадзьеўны Радаванавіч**, заняў першае месца ў сваёй намінацыі.

Падарункі дзяўчатам уручыць прадстаўнік Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў спадар **Жан-Іў Бушардзі**, паведамляюць у школе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Смаргонская ЦРБ набыла абсталяванне для даследавання кішэчніка

СМАРГОНЬ

Спецыяльнае абсталяванне для каланаскапіі набыла Смаргонская раённая цэнтральная бальніца. Фінансава дапамагла кампанія «Кранаспан».

Каланаскапія – дыягнастычны метад даследавання прамой кішкі і кішэчніка, падчас якога доктар з дапамогай эндаскопа можа рэальна ацаніць стан органаў і дыягнаставаць пэўнае захворванне.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

- Як каронавірус паўплываў на людзей з розных сфер: мам у дэкрэце, валанцёраў, што займаюцца пеpатрымкай жывёл, менеджараў па турызме, актывістаў.

## 15 жніўня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 2-3 м/с

| Горад | Ноч | Дзень | Воблачнасць |
|---|---|---|---|
| Астравец | +13 | +23 | Невялікая воблачнасць |
| Мядзел | +13 | +24 | Малавоблачна |
| Смаргонь | +13 | +22 | Невялікая воблачнасць |
| Вілейка | +14 | +25 | Малавоблачна |
| Ашмяны | +13 | +22 | Пераменная воблачнасць |
| Маладзечна | +15 | +25 | Малавоблачна |
| Валожын | +15 | +23 | Пераменная воблачнасць |

Усход 5.50
Захад 20.43
Даўжыня дня 14.53

Усход 1.02
Захад 18.48
Месяц на сходзе

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +5°С у 2004 годзе
Максімальная тэмпература +33,8°С у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,3 мм у 2008 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Падпіска на 2-е паўгоддзе не спыняецца!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструемся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 632122. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 96 капеек,
- на квартал – 14 рублёў 88 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16 рублёў,
- на квартал – 48 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*



Рэгіянальная газета. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№33 (1320) 14.08.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1345. Падпісана ў друк у 9.00 13.08.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.